# РОДНЫЯ ГОНІ






КНІЖКА 2

Литог. Х. Ласкова, Вильн

Цана 75 грашоў.

# РОДНЫЯ ГОНІ

МЕСЯЧНІК ЛІТАРАТУРЫ Й КУЛЬТУРЫ ЗАХОДНЯЕ БЕЛАРУСІ.

1927. Красавік 1927.

| | | |
|---|---|---|
| КНІЖКА II. | АДРЭС РЭДАКЦЫІ: Вільня, Крывое Кола, 21. (Wilno, Krzywe Koło 21). | Падпіска на год. . 8 зал. На 3 мес. . . . 2 зал. Адна кніжка . . 75 гр. |




НАТАЛЯ АРСЕНЕВА.

## Сьміялася ў вочы вясна...

Сьміялася ў вочы вясна...
Усяго толькі некалькі дзён
Вятраныя ласкі нясла,
Заглядалася ў люстра вады...
Ды кінула злосны праклён,
Адыходзячы ў далі, зіма:
Ізноў халады...
Ізноў загулялі вятры
Рухомаю сеткай галін
І сівер бяз праў, без пары
Свой сьпеў ледаваты завёў,
Сьцяў лёдам ваду каляін
І смутна ізноў....
Ды вернецца, прыйдзе ў палі
Ў зялёнай кароне бяроз,
Вясна, каралеўна вясна
Сьміяцца пачне да зямлі.
І песьні вятроў, і мароз,
Што сум у душу занясьлі, —
Адгоніць яна...

Сакавік 1927 г.

## Вячорная часіна.

Дрыжаць над вадою вячорныя цені
Дзіўнай, няўхопнай амаль чарадой
І моўчкі хінуцца старыя вярбіны
Ў бясслоўнай малітве вячорнай часіны,
— Часіны натхненьня, —
Над соннай вадой.
А захад згарае у зьменных адценях
Прадзіўнае хварбы пламенна-жывой
І пылам ражовым здаюцца аблокі,
Што ймкнуцца бяскрайнай, бязьмернай, далёкай,
— Як цяг пакаленьняў —
Нябёс пуцінай.
Так ціха... Не, нешта дрыжыць і сьпявае,
Сьпявае наўкола, ўгары, над зямлёй...
Мо' хвалі рачныя шапочуць паўсонна,
Мо' конікаў песьня зьвініць неўгамонна,
Мо' вецер гуляе
Гібкой галіной?
І хвалі рачныя пяюць маліцьвенна,
І конікі звоняць нямоўчна мяжой,
І вецер шасьціць у галінах вярбіны...
Ці-ж дзіва, што чар перадночнай часіны
Ўзварушыў пламенна
Й маёю душой?

Хэлмна, 1926 г.

---

М. ВАСІЛЁК.

## Васількі.

Красачкі сінія, госьці маёвыя
Родных палей,*)
Вы за ўсе іншыя краскі палёвыя,
Сэрцу мілей.
Хто вас, скажэце мне, дзеці прыгожыя
Ўбогіх палос,
Ў жытцо зялёнае, красачкі Божыя,
Кінуў-занёс?
Мо матылькі занесьлі днямі мая
Ў родны мой кут,
Можа той ветрык, што ў полі гуляе,
Сеяў вас тут?
Сум, васілёчкі, на вас адбіваецца;
Жальба на ўсіх —
Быццам з вас выразіць кожны мне маецца:
„З сьлёз мы людзкіх.

*) Русыцызм, пабел. — палеў.

З кропеляк мутных, што мылі сьпякотаю
Твар ратая,
З сьлёзак празрыстых, што льле за работаю
Бедна жняя“.
Глянеш на вас, мае красачкі родныя:
Сэрца баліць;
Хочацца песьняй заліцца свабоднаю
— Верыць, любіць...

---

ПАЛАЧАНКА.

## КЛІЧ.

Як авечак белых у нябёс прасторы —
Стады ваблакоў;
Без граніц шырока разьлілося мора —
Мора каласоў.
І высока неба і шырока ніва,
У паветры жар,
У паветры сонца; ціха дрэме дзіва,
Дрэме чар.
Курасьлепак-красак залатыя вочкі
З сіньню васількоў
Ўюнка-павяліца зьвіла у вяночак,
Прыпляла званоў.
Абыйшоў навокал цэлы сьвет багаты,
Сьвет чужы,
Зноў прышоў да роднай я да старай хаты
На мяжы.
Чую кліч я сэрцам, чую кліч далёкі,
Ціха адзавусь,
Кліча сонца, поле, кліча бор высокі,
Кліча Беларусь.

---

А. БАРТУЛЬ.

## ЛЕДАХОД.

Ськінула рэчка аковы сталёвы,
Ськінула путы няволі лядовы;
Досыць гібела, ёй хочацца волі,
Імкнецца магутна ў шырокім раздольлі.
Бурляць толькі хвалі, ламаюць аковы
І рэчка прыймае ужо выгляд новы.
Крыгі скрыгочаць ў бясьсільным апоры,
Лезуць, гуртуюцца, робяцца горы.
Ужо, ўжо стрымаюць вады ход магутны
І грукат замоўкнуў, зрабіўся ледзь чутны.

Вада падыймаецца грозна, спакойна,
Вялізнаю масай ідзе ў гору стройна.
Зьвяры лядзяныя напор адпіраюць,
Дый дзе ім стрымацца; хвалі ўдараюць,
Лоскат узьняўся і шум перамогі,
Вада забурліла, свабодны дарогі.
Ідзе рэчка ўперад, аковы разьбіты
Ў змаганьні за волю ёй шлях ўжо адкрыты,
Імкнецца, разьліўшыся ў шырокім прывольлі,
Ўжо досыць гібела, ёй хочацца волі.

---

ФРАНУК ГРЫШКЕВІЧ.

*
*   *

Ночка калматая, страхаў ўсіх маці,
Як мне цябе ня любіць, не кахаці...

Ты мне адзіная тут на чужыні
Згадуеш думы аб роднай Краіне,

Дорыш мне рыфму і творыш абразы...
Ночка, ах колькі з табою ўжо разы

Думай дзяліўся на соннай зямліцы,
Схованы ў хвалды твае спавядніцы;

Ночка, і чом я тваёга шаптаньня
Слухаю часта да самага раньня...

Ты-жа калышаш, як родная маці,
Й баіш цудоўную думу дзіцяці.

1927 г.

А. МАЦЕЙЧЫК.

# ДАРОГА.

Гэта гарачы пясок, падаўкі пад босымі нагамі; козыр шапкі нізка насунены на вочы ад яснага маёвага сонейка; ветрык пяшчотна абвяваючы змучаны, спалены сонцам і запылены твар...

Гэта ціхія палі па абапал, над якімі ўздымаецца, вібруючы ледзь лёгкімі празрыстымі цуркамі, нагрэтае паветра, бы ценкая — найценшая тканіна, наскрозь пранізаная й затканая срыбнымі нітамі жаўруковых песьняў...

Бязьмежны, як гэтыя палі, і пагодны, як гэты дзень маёвы, супакой на душы.

Ніякага клопату... Дзесь згінулі, распыліліся, рашчыніліся ў гэтым сонечным дзяньку ўся цемра, гідота і прыгнятаючая, забіўчая сіла страшнага неўмалімага „штодня".

Толькі супакой і няўхопны смутак аб чымсь недасягнёным і бясконцым... як дарога...

Гэта думкі, лёгка снуючыя ў галаве, ясныя й сьветлыя, як тыя хмарачкі, што ледзь-ледзь плывуць перад вачыма над сінімі хвойнікамі гарызонту, блізка-далёкія...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ах, як баляць ногі!...

Як шчымяць плечы ад дарожнай торбы!

Добра выцягнуцца на зялёным мурагу пад бярозкай, якіх так многа ўсюды пасьля вайны—і на палёх, і пры дарогах...

Як прыветна ўсьміхаецца гэта бярозка, зялёна-белая...

Ледзь варушацца каля самага твару лісточкі яе, былінкі казычуць шыю.

Надыходзіць драмота, самі заплюшчуюцца вочы...

Ветрык шапоча калыханку лісточкамі бярозкі.

Але як баляць ногі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Колькі каменьня!

Вострыя, яны быццам настаўленыя тут наўмысьля, стырчаць усюды—дарога ўся завалена імі.

Няможна ступіць...

Усюды — навакол — усюды насьмешліва вышчыраюцца яны, як зубы нейкага страхацьця, як зладзейскія нажы...

Але дзе падзеліся прыгожыя палі — дзе ласкавыя хмаркі—дзе дзень?

Мыгла... Алавянае неба...

Далёка працягнуліся безнадзейныя балоты, сьвецячы мёртвымі вачыма іржавых лужаў...

Сьмешлівым шэлестам адзываецца шэрая асака.

Безнадзеенньнем, праклёнам жаляцца кігаўкі, падаючы да самае вады. Як камяні, кіненыя няведама кім у зьненавісную зямлю, падаюць яны — і ізноў узьлятаюць, адстрашаныя маўклівым жахам балотных вачоў...

Нямаш дарогі...

А ці была яна? Куды вяла? Ці было штосьць, апрача гэтае дрыгвы?... Гэтае імглы...

Можа й дрыгвы няма?...

Але вось яна — ступі —пераканаесься, што яна ёсьць, што гэта запраўднасьць!

Пераканаесься!...

Нямаш дарогі. Але ёсьць мэта да якое яна вяла.

Што-ж, пойдзем. Бездарожжам пойдзем. На прабой. Напралом.

Мэта ёсьць!

„Дурны...“ рагоча каменьне.

— „Дзе-ж мэта?...“ шэпча асака.

— „Спыніся...“ сычаць вужакі...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Наляцеў вецер. Закруціў, замёў пыл на дарозе. Раптам скалануў бярозку, падхапіў з яе пару лісткоў. Паляцеў далей.

„Прачхніся... прачхніся...“ чуецца спалоханы шолах лістоў.

Цяжка падыймаюцца векі:— над галавою, праз зялёную сетку бярозы, пацяшае - сьмяецца неба...

Але па краёх навісаюць цяжкія мары... Мігаюць бліскавіцы.

Будзе дождж. Можа—навальніца...

Але дарога чакае. Няхай падыходзіць навальніца, сячэ ў твар буйны дождж—дарога чакае.

Дык пайдзема!

Вільня 12. III. 1927.

---

ПАЛАЧАНКА.

## Ня вылечыла...

*9 Сакавіка.*

Ганул, мая дарагая!

Не наракай на мяне, што гэтак даўно ня пісала Табе.

Маю пад рукой жмут Тваіх лістоў і ў соты раз праглядаю іх. Хоць Ты і хочаш скрыць ад мяне, але выразна бачу, што штосьці Табе баліць, нейкае гора стараешся ўтаіць ад мяне. Ізноў Габрусь? Чуе мае сэрца, што ізноў у Цябе з ім дрэнна.

Даражэнькая, залаценькая, адкрый мне душу сваю, мы так многа разам з Табой пражылі, мы так моцна зьвя-

заны з Табой ніцьмі прыязьні, што не павінны нічога хаваць адна ад аднае.

Памятаеш месячныя маёвыя вечары ў Дубаўцы? Памятаеш, як кожны вечар хадзілі мы з Табой па лекцыях на станцыю і заўсёды спатыкалі там вучыцеля Красьніка і доўга праходжаваліся. А ён прыходзіў за 8 вёрстаў. Дзеля Цябе прыходзіў, я ведала, і мы шмат гаварылі аб каханьні. Вы гаварылі аб каханьні. У яго голасе дрыжэлі мяккія, далікатныя тоны, якія выдавалі лішніцу пачуцьця. Я чула, што была лішняй, што яму перашкаджала (не Табе), але я была таксама маладая і мне хацелася кахаць, страшэнна хацелася быць каханай... і я яго крыху... кахала, але дзеля Цябе Гануля.

Вы на мяне глядзелі, як на асобу, якая ня можа мецъ людзкіх слабасьцяў, якая стаіць вышэй гэтага, як на вышшую істоту. І калі я, сьціскаючы зубы з каменным тварам казала, што мэтай жыцьця майго ёсьць прынясьці асабістае жыцьцё ў ахвяру вучыцельскай працы, што я жыву, каб гадаваць у здаровым духу дзяцей, як будучых грамадзян, зрабіць з іх здольных, разумных, сьветлых і сьвядомых дзяцей свае Бацькаўшчыны – я не маніла. У некаторай меры я мэты свае дапяла, бо мне дадзены на гэта сілы й здольнасьці.

Але як сумавала я па звычайным мяшчанскім шэрым жыцьцю, з яго горам і радасьцяй! Голас крыві — лічыла голасам з пекла і глушыла яго.

Памятую, як цяпер, выраз Тваіх вачоў, калі я казала, што не кахала і ня буду кахаць. З якой літасьцяй Ты на мяне паглядзела!

Ганка! Мяне ўжо кахаюць, а я — я жыцьцё сваё гатова аддаць яму, калі-б ён зажадаў, каб толькі бачыла патрэбу!...

Я ўсю душу аддала вучыцельскай працы; здавалася, што ў ёй няма месца асабістаму шчасьцю. І вось гэтае шчасьце я трымаю ў руках. Часамі здаецца, што я сплю, што прачхнуся і ізноў угледжу цяжкую запраўднасьць. Сама сабе ня веру. Часамі баюся, што шчасьце вырвецца з маіх няўмелых нязграбных рук.

Марыля, казаў, душа мая змаглася, туляючыся па сьвеце. Я ня маю супакою, я хворы. Дайце мне сваю руку на заўсёды, заапякуйцеся маёй хворай душой.

Вось Гануля, чым хварэе яго душа, я ня ведаю, але я яму патрэбна, ён мяне кахае, ведаю, і я, ізноў паўтараю, жыцьцё сваё аддам яму. Бо я маю такую натуру, што не магу раздвоявацца на палову. Калі аддам, дык усю сябе, так як усю сябе аддала сваёй працы.

Баюся чагосьці няведамага... Гляджу ў гэта неба вячэрняе, на гэты туман, што ідзе з возера, і ўсё шырэйшы

захапляе прастор навокал і нейкі дзіўны сум закрадаецца ў душу і разам з туманом распаўзаецца шырэй... Дурніна! Часовы настрой! Будзь здарова, мая Ганулям. Пішы. Адкрый мне сваю душу. Прывет мужу й Валечцы.

Твая заўсёды Мар'я Мялешка.

*8 Сакавіка.*

Дарагі браце Аляксандру,

Пішу да цябе вельмі рэдка, вылучна ў прыпадку, калі ня ведаю, што маю рабіць. Далібог, пераблыталіся, перапляліся мае жыцьцёвыя сьцюгавінкі *) і я сноўдаюся як няпрытомны.

Хачу жаніцца, браце. Мне здаецца, што чую твой голас: „Ці маеш права?"—дык я табе адкажу так сама пытаньнем: ці маю права сябе ратаваць? Адкажы, зрабі ласку.

Што патрабую гэтага ратунку—хіба ты ня будзеш пярэчыць. Так як не павінен пярэчыць, што мае разьбітае сямейнае жыцьцё—гэта справа вашых рук: тваіх і маміных.

Ад маіх дзіцячых год ты, браце, замяняў мне бацьку і, прызнаюся, што меў ты вялікі ўплыў на мяне.

У 1906 годзе ты бязумоўна памятаеш, як я хацеў кінуць гімназыю і з 6 клясы пайсьці працаваць на хвабрыку. Душа мая бунтавалася проці клясавых розьніцаў і прывілеяў, і мой крок быў сьвядомым пратэстам проці несправядлівасьцяў, якія мне, як сыну судзьдзі, прыходзілася бачыць.

І ты сваім сьцюдзёным станаўкім голасам сказаў: „Што-ж, ідзі ў народ і працуй ня толькі з ім, але і для яго. Але раджу табе скончыць унівэрсытэт і ісьці да „іх", бо тады ты патрапіш „ім" прынясьці вялікшую карысьць".

І я скончыў унівэрсытэт, але... не пайшоў да „іх", бо маю слабую натуру і лёгка паддаюся ўплывам.

І вось я жаніўся. Сьмешна й сорамна прызнацца... што вы з мамай мяне жанілі... на грашах. Фактычна так і было і гэта мяне згубіла.

Вы мне казалі, што я тыповы Галавач і мушу бараніць „традыцыі роду". Але, лёс пасьміяўся нада мной за гэтую бязьлепіцу, гэтую дурную ролю, якую вы мне навязалі. І ў рэзультаце жонка сёдня фільмовая зорка, а дачку нашую гадуеш ты з мамай. Магчыма, што варункі ў гэтым вінаваты (рэвалюцыя), што мая жонка была змушана тым ці іншым спосабам зарабляць. Я думаю, што ў Насты проста душа артысткі і яна лучыла ў той сьвет, па якім заўсёды тужыла: сьвет артыстычнай багэмы, поўны шуму, блеску, пазалоты. Бо яна прынамся шчасьлівая, калі шчасьце бы-

*) Сьцежачкі.

вае на сьвеце наагул. А быць толькі мужам артысткі—мне не стае сілы. Пры тым, здаецца, я быў адным у сваім родзе, але ня першым і не апошнім гэроем яе раманаў. Нічога надзвычайнага ў гэтым няма, што мы разышліся. Бяда мая ў тым, што я не магу яе забыцца, і страшна, цяпер навет яшчэ больш чым раней, яе люблю. Мела вельмі харошыя рукі, любіў глядзець на іх, як грала на фартэп'яне. Характар мела нязносны, асабліва першыя два гады нашага жыцьця, пакуль ня ўступіла на сцэну; тады раптам зьмянілася, знайшла свае прызваньне, была заўсёды вясёлая, здаволеная, мілая й добрая, у той час як раней нэрвавала яе кожная драбяза, кожная дрэнь выводзіла з сябе. Ты думаеш я не стараўся знайсьці выхад з створанай сытуацыі, але ёй быў выхад адзін. За ўсялякую цану застацца артысткай і працаваць у гэтым кірунку, няхай гіне й развалюецца сям'я. I я шалею, браце, яна давядзе мяне да вар'яцтва, да таго, што я кінуся ў вір галавой, да пагібелі.

Любоў я хацеў затапіць у гарэлцы — яшчэ гарэй, бо настае адьвеpазеньне й прытомнасьць а з імі ізноў сум па Насьце, думкі аб ёй.

Наста — мая хвароба. Каб ратаваць сябе, пастанавіў жаніцца. Магчыма, што мая заручніца, пры яе вельмі значных маральных вартасьцях, патрапіць мяне вылечыць. Яна вучыцелька, бедная, сялянка, праўдзівая дачка свайго народу.

Яе натура ня ведае ніякіх сумлеваў, усе пытаньні маюць ясны й просты адказ, у ўсім, што робіцца, бачыць яна мэту.

Яна мне павінна памагчы разабрацца ў маім душэўным хаосе...

А як я ня вытрываю... кінуся да Насты; дарагі Аляксандру, як ты думаеш... перажыве яна маю зраду?

Бо ня веру сабе. Баюся... баюся, што яна не здаволіць маіх эстэтычных вымаганьняў і толькі мімаволі будуць уставаць прыраўнаньні. Напрыклад яе рукі, ня варта аб іх казаць, і так ужо часта лаўлю сябе на прыраўнаньні з... Не, нічога ня буду казаць, вёска накладае заўсёды свой сьлед, у гэтым нічога дрэннага няма і я пастараюся прывыкнуць да яе. Што яна ня мае паняцьця аб эстэтычнасьці і жаноцкай coquetterie *)—гэта к лепшаму. Прынамся аддыхну.

Не, за яе я не баюся. Яна не з такіх, што трацяць галаву.

Чакаю ад цябе ліста, Алесю.

Угавары маму, каб ня вельмі крывілася і ня ўпіралася, а прыняла Марылю ў сваю сям'ю. Як мая Ніначка? Напішы. Цалую ўсіх. Юрка.

*) Слова францускае — кокецтва.

*18 Сакавіка.*

Дарагі Юрка,

Сьпяшаюся табе адказаць, што ты пашоў на добрую дарогу. Жаніся.

У нашыя часы так мала сьветлых людзей, што за тваю знаходку магу цябе толькі павіншаваць. Табе ня трэба жонкі харошай, а трэба разумную. Робіш мне шмат несправядлівых закідаў, сёдня не магу, на жаль, дзеля нястачы часу напісаць, як я гляджу на прычыны твайго нешчасьлівага жанімства. Напішу як буду мець час. Ніна здарова. Гэта дзяўчынка агонь. Копія маткі і трэба будзе яе вельмі старанна гадаваць, каб не пашла сьлядамі Насты. Мама табе кланяецца, яна ня хоча прызнаць тваю заручніцу.

Будзь здароў. Твой брат А л е с ь.

P. S. Забыўся напісаць табе, што дастаў ліст ад Насты. 25 гэтага месяца яна прыяжджае з Бэрліну ў Варшаву. Піша, што мае з табой перагаварыць аб надта важнай справе, просіць цябе прыехаць. Скардзіцца на дрэннае здароўе. Сумуе па Нінцы і табе. Нічога табе не хачу радзіць. Рабі, як табе здаецца лепшым.

Бывай яшчэ раз. А л е с ь.

*23 Сакавіка.*

Марыля, даруйце, не ўспамінайце благім словам. Яна мяне кліча! Ах, чаму гэта шчасьце адных збудавана заўсёды на няшчасьці другіх?! Выбачце. Коні ўжо чакаюць, выяжджаю на заўсёды. Ведаю, што еду на крыжаваньне, але інакш не магу. Ю р ы Г а л а в а ч.



Беларуская Гімназыя ў Клецку. Лекцыя гімнастыкі.

АНТ. НАВІНА.

# Істота літэратуры і яе грамадзкае значэньне.

## (Лекцыя, чытаная ў Т-ве Беларускае Школы ў Вільні).

Што такое мастацтва? што такое літэратура? чаго ў ёй шукаць і чаго спадзявацца?

Вось пытаньні, на якія пастараемся даць тутака адказ—перш, чым пяройдзем да разгляду тых ці іншых мамэнтаў нашае адраджэнскае літэратуры.

Перанясемся на адзін мамэнт за шмат тысячаў гадоў — у тыя старадаўныя часы, калі продкі нашы вялі жыцьцё, мала чым рознае ад жыцьця ўсялякага зьвяр'я,—калі не гаварылі йшчэ м о в а й с л о ў, як гаворым цяпераka мы. Як-жа ў тыя часы сівое даўніны выяўлялі яны свае думкі й перажываньні, як перaказвалі другім тое, што хвалявала іх душы і шыбчэй прымушала біцца іхныя сэрцы?

Вось-жа такія моцныя ўражаньні і пачуцьці, як радасьць, гора, боль, страх, гнеў і абурэньне, продкі нашы выяўлялі зусім таксама, як і ўсе іншыя жывыя стварэньні. Найбольш пашыраным способам выяўленьня гэткіх перажываньняў і пачуцьцёў быў к р ы к - в ы ц ь ц ё, якое мы і сягодня сустракаем у царстве зьвяроў. Крык гэны быў розны ў залежнасьці ад таго, што чалавек хацеў выявіць гэтым способам — гукам. Розныя былі па тону, вышыні, тэмбру гукі, што выяўлялі радасьць і перамогу над паваленым ворагам, што гаварылі аб болю ад атрыманых ран, ці аб перажытым паражэньні або утраце некага блізкога, што ўрэшце павінны былі паказаць удзячнасьць, прыхільнасьць, любоў, пажаданьне... З гэнага-ж крыку ці п р а - с л о в а разьвілася наша сучасная с л о в а - р а з ь д з е л ь н а я м о в а — з аднаго боку, п е с ь н я - с ь п е ў — з другога. А калі чалавек дайшоў да таго, што навучыўся выклікаць гукі пры памозе інструмэнтаў,—паўстала наша м у з ы к а і н с т р у м а н т а л ь н а я, такая цяпер багатая ў выражэньні настрояў і перажываньняў і тварца яе, і выпаўніцеля музычнага твору.

Але мо йшчэ старэйшым способам самавыяўленьня чалавека ў найдаўнейшыя часы быў ж э с т — р у х. Наскочыўшы на востры камень, чалавек хапаўся за балючае месца і скакаў ад болю. Над забітым зьверам, які на нейкі час забясьпечаваў чалавека ад голаду, людзі — пераможцы яго ізноў-жа скакалі ад радасьці. Злосьць, гнеў, абурэньне выяўлялі сьціскаючы кулакі і пагражаючы імі нявіднаму часта ворагу. Калі ў выабражэньні сваім чалавек стварыў

багоў, ён выяўляў сваю пакорнасьць ім ізноў-жа жэстамі, падаючы перад імі на калені ці прыпадаючы тварам да зямлі... І вось з гэных жэстаў і рухаў паўсталі танцы—паўстала хорэографія, як асобны від мастацтва, які пэратрываў і да нашых часоў; толькі цяпер мы ўжо не танцуем перад ахвярным вогнішчам, як скакалі біблейскія цары, а праз танец выяўляем той ці іншы мастацкі абраз або музычны твор.

У меру разьвіцьця чалавечае культуры знаходзіліся і другія спосабы самавыяўленьня, толькі-ж даступныя ня ўсім, а вылучна тым, хто меў адпаведныя здольнасьці. Прадстаўце сабе чалавека, які, прабіраючыся праз лясны гушчар, разам наткнуўся на мамонта. Перад чалавекам вырасла гэная страшная зьява, ад якое кроў у жылах ягоных напэўна мусіла застыць! З дзікім крыкам уцякае наш дзікун ад страшнога зьвера, і абраз зьвера крэпка запаў у ягоную душу. Абраз гэны перасьледуе яго і на яве і ў сьне. Чалавеку хочацца пазбыцца яго. І вось ён, калі мае рысавальныя здольнасьці, і вылівае з душы гэны адбітак страху, рысуючы абраз мамонта. З гэтае патрэбы вызваліць душу ад абраза, які перасьледаваў пэршабытнага чалавека, і вырасьлі розныя віды сучаснага графічнага мастацтва, а побач—і скульптура.

Як бачым, усе віды мастацтва маюць адно супольнае жарало: гэта — патрэба самавыяўленьня. Але-ж ведама, што ня кожнае самавыяўленьне нашае заслугуе на назоў мастацтва. Прырода мастацтва наагул у тым, што яно ўзварушае нашу душу, выклікае духовы ўздым у нас і гэтым самым робіць нас здольнымі да ўвабраньня, адчуцьця і рэальнага прадстаўленьня таго, што мастак нам хоча пераказаць ці намаляваць. Нуднае апавяданьне, кульгавы верш, няўдалая песьня, слабы рысунак, таксама, як нейкія карыкатурныя танцы,—ня здолеюць ані ўзварушыць нашу душу, ані даць нам ілюзію бачаньня таго, што аўтар хоча нам паказаць. І самы жудасны факт, ад якога павінны-б валасы на галаве дыбком станавіцца, можа выклікаць сьмех, калі форма апавяданьня — неадпаведная да зьместу. Пэўне-ж кожнаму даводзілася хоць адзін раз у сваім жыцьці пабываць у такім дрэньненькім тэатры, дзе ў найтрагічнейшых мясцох публіка за жываты хапаецца ад сьмеху. Бо-ж у мастацкім творы форма й зьмест мусяць прадстаўляць нешта так прытарнаванае адно да аднаго, каб узаемна сябе дапаўнялі і ўзмацоўвалі ўражаньне ад твору. Чым мацней узварушаецца душа наша, чым большая ілюзія праўды выклікаецца ў нас даным творам, тым вышэй мера ягонае мастацкасьці.

Усё сказанае тут аб мастацтве наагул у поўнай меры адносіцца і да мастацтва ў слове — да літэратуры. Літэратура—гэта самавыяўленьне ў слове, ведама—у мастацкай форме. А дзякуючы некаторым асаблівасьцям жывога слова — літэратура займае асаблівае месца сярод усіх іншых мастацтваў.

Запраўды-ж: сьпеў і музычныя сугуччы, жэст і танец, малярства й скульптура — усе гэтыя спосабы выяўленьня станаў душы чалавечае зьяўляюцца дужа суб'ектыўнымі. Не заўсёды другому чалавеку ўдаецца правільна зразумець ці адчуць той настрой або перажываньне, якое мы хочам выявіць у музыцы ці то іншым спосабам самавыяўленьня. Вазьмеце хаця-бы тую-ж музыку: з тысячаў слухачоў на канцэрце нейкую сымфонію Бэтховэнаву мо' запраўды зразумеюць, запраўды здолеюць уявіць сабе ўсе думкі й пачуцьці вялікага творца яе адно толькі лічаныя адзінкі. То-ж можна сказаць аб сучаснай хорэаграфіі (балеце), аб малярстве — асабліва ў яго апошніх футурыстычных кірунках, ды гэтак далей. Чаму? Ды гэта рэч зусім зразумелая: тут падаваныя нам настроі й пачуцьці не зьвязаны раз назаўсёды з нейкім адзіным абразом, калёрам, формай, гукам, які адпавядаў-бы нейкаму аднаму стану душы ці настрою. Тут пануе расплыўнасьць, тут — поўная воля для кожнай індывідуальнасьці, характару, упадабаньня — ці то пры ўкладаньні музыкальных фразаў, ці эвалюцыяў танцу, ці калёраў на палатне.

Ня гэтак у творстве ў слове, дый у жывой мове наагул. Тут кожнае слова — гэта закамянелы абраз, пачуцьцё, паняцьце. І кожны з нас, вымаўляючы гэтае слова, заўсёды ўкладае ў яго той самы зьмест, як і ўсе ягоныя аднапляменьнікі. Слова—найбольш об'ектыўны спосаб нашага самавыяўленьня, найлягчэй зразумелы ўсім.

Ясна, што слова — менш беспасярэдні спосаб самавыяўленьня, чым крык, гук і г. п. Але затое слова багацейшае за ўсе іншыя спосабы выяўленьня нашага духовага Я. Мова чалавеча абыймае ня толькі прымітыўныя настроі й перажываньні, але і найбольш зложныя, абыймае адарваныя паняцьці і матэрыяльныя рэчы, адносіны паміж імі і да іх, зьмены ў часе і адлежнасьці наагул—усё, што чалавек пазнае і ўбірае ў сябе пяцьма сваімі чуцьцямі, што абыймае думкай сваёй.

Усе віды мастацтва, дзе матэрыялам зьяўляецца гук і жэст, рух, — нормуюцца заўсёднымі рытмічнымі рухамі ў нашым арганізьме. Нормуюць іх: дыханьне й біцьцё сэрца. У літэратуры — у творчасьці ў слове — гэты рытм жыцьця цела нашага выяўляецца асабліва ярка. У літэратуры рытм іграе галоўную

ролю, калі закранем пытаньне аб форме: бо-ж і ў творах пісаных прозай, і ў вершаваных творах бачым зусім натуральны падзел мовы і прыпынкі ў ёй, выклікаьыя — з аднаго боку — патрэбай „перавесьці дух“, з другога — біцьцём нашага сэрца. Стуль — рознароднасьць будовы і верша і сказаў у прозе, залежныя ад нашага ўласнага ўзварушэньня, ад тэмпу, шыбкасьці біцьця сэрца і дыханьня.

Ня дзіва, што літэратура сталася найбольш пашыраным відам творства: яе об'ектыўнасьць, зразумеласьць для ўсіх, багацьце і неабмяжованы прастор ахопліваньня жыцьця і ягоных праяваў, урэшце — арганічная сувязь з галоўнымі функцыямі нашага цела, — усё гэта прычынілася да таго, што гэты від творства стаўся асабліва папулярным, што на шляху літэратуры найбольш людзей шукае магчымасьці самавыяўленьня і тварэньня КРАСЫ Бо-ж КРАСА ў творах мастацтва — гэта й ёсьць тое, што дае нам духовае ўзварушэньне — так-званую эстэтычную эмоцыю, што прыковуе нашу ўвагу да данага твору, захоплюе нас у ім і прымушае нашае сэрца біцца адналькава з сэрцам тварца.

Гаворачы аб літэратуры наагул, мы павінны перш за ўсё адзначыць дзьве дарогі, два кірункі, у якіх выяўляецца наша творчасьць у слове. Адзін — гэта той, які кіруецца адно толькі да об'ектыўнага апісаньня жыцьця і ўсіх ягоных праяваў, да выкрываньня праўды аб ім і да выкарыстаньня гэтае праўды дзеля ўжытку людзей. Ні спосаб, ні форма такога адтвараньня праўды ня маюць тутака вагі. Такое творства ў слове, абыймаючы ўсе навукі, усе справы нашага грамадзкага жыцьця, называецца прозай. Але ёсьць і другое — больш суб'ектыўнае творства ў жывым слове і на пісьме, якое, пранікаючы ў істоту жыцьця, адбівае яе ў жывых абразох, дзеець не на наш розум толькі, але перадусім на нашы пачуцьці й выбражэньне, ды гэтак дае ілюзію жыцьця, захоплюючы нашу душу красой і харастврм абразоў. Гэты від пісьменства, прапускаючы праз прызму нашае душы акружаючае нас жыцьцё і яго праявы, мае ў аснове сваёй перадусім красу, шукае яе і ў зьмесьце, і ў форме, і ў абразох. Такое творства мы называем поэзіяй, або літэратурай у вузкім значэньні гэтага слова—пісьменствам красным, мастацкім.

Ясна само сабой, што ў літэратуры ў гэтым вузкім значэньні, як і ў пісьменстве наагул, асноўнае значэньне мае ня толькі мастацкая форма, але і зьмест творанага. Каб тварыць, трэба ў сваёй уласнай душы мець той скарб, які мы хочам выявіць, трэба мець што выяўляць. Могуць быць пераживаньні адзінкі, якія ня знойдуць ніякага водкліку сярод іншых людзей. І поэта, духовы зьмест якога — чужы масе, ніколі ня здолее прамовіць да душы

і сэрца яе, захапіць яе хараством свайго творства, падняць да тае вышыні, на якую сам узьняўся. Сіла і ўплывы вялікіх поэтаў усяе людзкасьці — у тым, што яны абхоплівалі й адтваралі агульныя перажываньні, імкненьні, балячкі, што ўзьнімаюцца па-над масу сілай і глыбінёй гэтых перажываньняў, што ўмеюць уласным агнём распаліць такі-ж агонь імкненьня й пажаданьня, любові й ненавісьці ў душах звычайных сьмяротнікаў. І затым вялікія поэты — гэта правадыры-прарокі народаў, уяўляючыя сабе шляхі да лепшае будучыні лягчэй, чым кожны звычайны чалавек, маючыя ў сваім творстве элемэнт прадбачаньня, яснавідзтва.

У гэтай сувязі між поэтамі і іх народамі — вялізарнае грамадзкае значэньне поэзіі наагул. Поэтычнае творства — гэта выяўленьне ня толькі індывідуальнасьці поэты, але і зборнае душы народу, які яго ўзгадаваў. І праз літэратуру, праз краснае пісьменства ўсякая новая ідэя, усякі новы кліч пранікае ў масу шмат лягчэй і хутчэй, чым праз вялікія навуковыя трактаты. Можам сьмела сказаць, што літэратура — гэта найлепшы праваднік новых ідэй і поступу ў народную гушчу, гэта — запраўдная школа народаў.

Гісторыя чалавецтва дае нялічаныя даказы гэтага. Але ня будзем шукаць іх у далёкай мінуўшчыні: найбольш іх даюць нам часы да нас найбліжэйшыя, калі — дзякуючы таму, што кніга сталася прадметам масавага ўжытку, літэратурнае творства запраўды-ж даступна кожнаму граматнаму чалавеку.

Возьмем хаця-бы вялікую француcкую рэвалюцыю. Бязумоўна, яна вырасла й насьпела ў сувязі з глыбокімі зьменамі, якія тварыліся ў сацыяльнай структуры тагачаснае Францыі. Але-ж пэўне ніхто ня будзе сумлявацца, што псыхалягічную падгатоўку рэвалюцыі зрабілі ў значнай меры творы Жан-Жака Руссо, які ў жывых абразох даў відавочнае выяўленьне новых пглядаў на чалавека і месца яго ў грамадзянстве й дзяржаве. А калі прыпомнім, як абарваныя, галодныя масы санкюлётаў з голымі рукамі ішлі „выганяць тырана“ з сталіцы Францыі і бурыць муры спрадвечнае вязьніцы Парыжа — Бастыльлі — пад гукі й словы несьмяротнае „Марсэльезы“, — дык нам у поўнай меры будзе зразумелым значэньне песьні-верша дзеля падняцьця настрою масы і пакіраваньня яе на сьмяротную барацьбу.

Глянем яшчэ бліжэй — у жыцьцё больш ведамае нам Расеі. Вось, хоць-бы творчасьць Льва Толстога. Як гэта ні дзіўна, але ягоныя творы — з сваёй ідэяй аб „непраціўленьні злу“ — ня менш прыгатавалі псыхалёгію расейскага грамадзянства да рэвалюцыі, чым у Францыі—творы Руссо.

Бо Толстой на вялізарную вышыню падняў чалавека наагул, бо ў душах людзкіх, у іх сьвядомасьці разьбіў путы, якімі самадзяржаўная ўлада была скавала душы і волю міліёнаў людзей. І вось, вызваліўшыся духова, народныя масы старое Расеі пад гукі рэвалюцыйнае песьні выходзілі безаружныя пад кулі царскіх наймітаў — каб пратэставаць проці няволі, а пасьля — пад тую-ж песьню, і сягодня хвалюючую нашу кроў, — разбурылі аружнай сілай стары нявольны лад...

Нязвычайна магутны ўзгадавальны ўплыў літэратуры на народ мы бачым урэшце ў Польшчы: іменна літэратура, творства польскіх поэтаў-прарокаў падтрымлівала ў масах— у часе няволі — вольны дух і імкненьне да барацьбы за вызваленьне. Іменна ўплыў романтычнае поэзіі, а ня лістоўкі-праклямацыі, падыймаў палякоў на паўстаньні, якія так жорстка душыла расейская ўлада. І мо' гэты-ж самы романтызм, прышчэплены польскаму грамадзянству яго літэратурай, адыграў рашаючую ролю ў справе ўскрашэньня Польшчы, як незалежнае дзяржавы...

Ясна, што ўва ўсіх пералічаных намі выпадках уплыў літэратуры на народныя масы мог выявіцца толькі пры такіх варунках: літэратура гэтая і па мове, і па форме, і па зьместу мусіла быць блізкой і роднай масам, мусіла быць даступнай для ўсіх і ў аснове сваёй мець мо' несьвядомыя, але глыбака ў душы масаў захаваныя імкненьні й пажаданьні. Бяз гэтага літэратура ня можа ані выпаўняць свае грамадзкай ролі, ані наагул разьвівацца, дый раней ці пазьней аказуецца засуджанай на сьмерць.

Калі зьвернемся да гісторыі нашае роднае беларускае літэратуры, дык вельмі лёгка пераканаемся ў правільнасьці нашага тэзісу.

Беларуская літэратура дзеліцца на два пэрыяды. Адзін—адпачатку пісьменства ў Беларусі наагул (пасьля прыняцьця хрысьціянства) — ажно да канца XVIII сталецьця. Другі — пэрыяд Адраджэньня, зачатак якога прыпадае на XIX ст., ды якое так магутна разраслося за апошнія 25 гадоў.

Нашае старадаўнае пісьменства вырастала на груньце чужое нашаму народу старабаўгарскае (так-званае царкоўна-славянскае) мовы. У працягу некалькіх вякоў у царкоўна-славянскую пісьменнасьць урывалася жывая народная мова, і барацьба паміж гэнымі двума элемэнтамі закончылася ў так-званую „Залатую пару“ нашага пісьменства перамогай беларушчыны. Але — мо' якраз у значнай меры з прычыны гэнае барацьбы, ня кажучы ўжо аб нізкім культурным роўні народных масаў тых часоў,—у тварэньні нашае старадаўнае пісьменнасьці прымалі ўчасьце толькі

„вярхі“ грамадзянства, якія стаялі даволі далёка ад народнае гушчы. Дый па зьместу свайму наша старадаўная літэратура пераважна абмяжвалася справамі рэлігійнымі, вельмі слаба адбіваючы жыцьцё масаў. І калі — у выніку зьліцьця беларуска-літоўскага гаспадарства з Польшчай — нашы нацыянальныя вярхі апалячыліся, дык яшчэ нейкі час беларускае пісьменства трымалася на мяшчанстве, але і апошнім было канчальна закінена з узмацаваньнем сярод праваслаўных беларусаў маскоўскіх уплываў. Старадаўнае беларускае пісьменства заняпала іменна затым, што і язык яго быў вельмі занячышчаны чужымі ўплывамі (сьпярша—баўгарызмамі, пасьля — лацінізмамі і польшчынай), і па зьместу свайму яно стаяла далёка ад найбольш жыцьцёвых спраў і патрэб народных гушчаў, папаўшы ў палон царкоўнасьці.

Але—незалежна ад нашае пісьменнасьці, творанае некалі так-званымі „вышэйшымі сфэрамі“ грамадзянства, — ад найдаўнейшых часоў існавала й разьвівалася ў нас і другая творчасьць у слове — чыста народная, нізавая, масавая. Той шэры сярмяжны люд вясковы, які жыве сваім асаблівым жыцьцём, далёкім ад жыцьця „вярхоў“, — гэта вялікі тварэц-мастак. Гэная шэрая маса працоўнага сялянства ад няпамятных часоў вылівала сваю душу ў песьні, казцы, легендзе, твораных жывым словам— у памяці. У працягу сталецьцяў яна гэны скарб свой узбагачвала ўсьцяж усё новымі й новымі мастацкімі творамі... Творы гэныя, хоць твораныя спачатку адзінкамі, гэтак шчыльна зьвязваліся з духам усяго народу, што ставаліся ўласнасьцяй масы, перапрацоўваліся й дапаўняліся ёю і пераказваліся ад пакаленьня ў пакаленьне — так, як і тварыліся, жывым словам. З гэтае нашае народнае творчасьці поўнай жменяй, як з ажыўчае крыніцы, чэрпалі сваё натхненьне і ўзоры нашы першыя адраджэнцы, якія ад пачатку XIX сталецьця прабавалі пісаць пабеларуску.

Але першыя нашы пісьменьнікі з XIX сталецьця — гэта прадстаўнікі краёвае шляхоцкае інтэлігенцыі. Далёкія ад жыцьця працоўных масаў, ад усіх іх бед і лятуценьняў, гэтыя шляхоцкія пісьменьнікі пісалі бадай вылучна аб тым, што было цікаўна ім, а не народу. Пісалі яны дыдактычныя вершы, стараючыся ўзгадаваць у масе пачуцьцё любові да паноў, як да „натуральных апякуноў“ сялянства. Вучылі народ, як павінен жыць і вясьці сябе, каб заслужыць пахвалу ад паноў і прыхільнасьць іхнюю. Мала было ў гэтым таго, што магло-бы ўзварушыць, захапіць масу, папхнуць яе да нейкае актыўнасьці. Дык праца першых нашых пісьменьнікаў так і не кранула душы народу, ня здолела збудзіць яе з векавога сну.

Першым будзіцелем нашага народу можна лічыць толькі Мацея Бурачка (Францішка Багушэвіча). Чаму? Бо толькі ў ягоных творах першы раз выяўляюцца мукі й гора народнае, толькі тут народ пачувае сябе чалавекам, роўным другім, толькі творства Багушэвічава блізка нашым працоўным масам ня толькі сваёй мовай, але і сваім зьместам, сваім духам. Праўда, Мацей Бурачок толькі напалову адпавядае тым вымогам, якія мы паставілі поэтам-павадыром: ён дае вострую крытыку таго, што за ягоных часоў існавала, ён горача пратэстуе проці зьдзеку над чалавекам у асобе селяніна, ён узьвялічае працу і мужычы мазоль, — але не выяўляе таго, чаго-ж хоча народ, куды ён павінен імкнуцца, чаго жадаць, за што ходацца. Мацей Бурачок выявіў толькі адзін бок народнае душы, бо, хоць і блізка стаяў да народу, але ўсім сваім асабістым жыцьцём быў ад яго аддзелены; стаяў па-над масаю і ня здолеў дачуцца таго, што на самым дне душы мужычае пачынала ўжо жыць і бурліць. Голас беларускае працоўнае масы выявіўся толькі ў запраўды народнай літэратуры найнавейшага часу — часу Адраджэньня, пачынаючы ад пачатку XX сталецьця.

Толькі 1905 год вырваў з грудзей народных запраўдны голас масы, выявіў запраўдную волю й лятуценьні многаміліённае беларускае працоўнае грамады. Толькі рэвалюцыя, узварушыўшы народныя масы, выклікала на зьверх нашага грамадзкага жыцьця поэтаўпрарокаў і павадыроў, якія прамовілі да масы — яе ўласнымі славамі, яе ўласным голасам. Толькі такія народныя песьняры, як Купала, Колас і доўгі-доўгі рад другіх, здолелі ў уласнай душы сабраць і адбіць усё тое, што тлела пад шэрай сярмягай беларускага селяніна і крамнай бравэркай мястовага работніка. Толькі яны — гэтыя волаты слова — здалелі выявіць душу масы, толькі іх творчасьць сталася запраўды масавай-усенароднай.

Вось-жа, падыходзячы да вывучэньня нашае адраджэнскае літэратуры, мы і будзем шукаць у ёй ня толькі высокіх мастацкіх цэннасьцяў, якія паставілі яе на адным роўні з літэратурамі другіх народаў, — але перадусім выяўленьня многаграннай і зложнай, глыбокай і багатай душы запраўднага тварца ўсіх культурных і мастацкіх багацьцяў нашых — беларускага працоўнага народу.

У гэтым масавым характары беларускага літэратурнага творства — нявычарпаная крыніца творчае сілы і залог несьмяротнасьці беларускае літэратуры.

Вільня, красавік 1927 г.

С. П.

# Да пытаньня аб асноўных прынцыпах навучаньня й узгадаваньня ў пачаткавай беларускай школе.

(*Глянь кніжку першую „Р. Г.“*).

**Псыхолёгічнае абаснаваньне творчага прынцыпу.** Нормальны развой дзіцяці патрабуе ўзгадаваньня ўсіх фізычных і духовых сілаў і здольнасьцяў ягоных. А ніштто так ня будзіць фізычных і псыхічных сілаў, як фізычная праца. Паводле Вундта, ведамага закладчыка **экспэрымэнтальнае псыхолёгіі**, фізычная праца, будзячы вонкавыя пачуцьці і выклікаючы да руху найвялікшую лічбу мускулаў, мае асаблівае значаньне дзеля развою мазгоў, а чым балей разьвітыя мазгі, тым вышэй дзеяльнасьць мысьлі чалавека. Разумна ўзгодненая з работаю іншых вонкавых пачуцьцёў і псыхічных **стымулаў** *) фізычная праца, асабліва дзіцячая, як нямаючая практычных мэтаў, можа зрабіцца тым асяродзьдзем, навакол каторага пачнецца заўсёднае й запраўднае фармаваньне дзіцяці. Што творчы ці працоўны прынцып адпавядае прыроднаму псыхічнаму ўзрастаньню дзіцяці, доказам гэтага можа быць штодзеннае назіраньне, як дзеці заўсёды шукаюць працы для сваіх рук, імкнуцца да дзейнасьці, да ўсялякага руху, што складае асаблівасьць дзіцячае псыхікі. Дзіця бывае найшчасьліўшае, найбалей уносе цікавасьці, учасьця да жыцьця, найбалей дае здаровага, жыцьцярадаснага пачуцьця, калі што-колечы робіць, творыць. „Усялякая ідэя яму ня поўная, пакуль не рэалізуецца ў дзеяньні. Дзіця знаёміцца з сьветам праз рух. Непарушная седня пярэчыць ягонай прыродзе і прыродным патрэбам. Калі гэтая седня **) адыймае значную часьць ягонага жыцьця, дык розум ягоны разьвіваецца памалу й няпоўна, таксама і ўсёй істоце дзіцяці робіцца вялікая шкода. Ён павінен знаёміцца з красскамі, птушкамі, лясамі й палямі свае ваколіцы, ён павінен вучыцца ўжываньня нажа, пілы, малатка, ён павінен **працаваць** сярод сваіх кучаў пяску і гуляць з таварышамі. Адным словам, ён павінен дзеяць пад разумным кіраўніцтвам, а ня вучыцца на памяць словы, адарваныя ад дзеяньня. Вось пагляды, усё балей уходзячыя ў сыстэму сучаснага ўзгадаваньня“ ***). Ці ня дзеля таго ў старой школе

*) пабудзіцель да чагось. **) седня—сяджэньне. ***) з кнігі А. Пабста: дырэктара Лейпцыгскае вучыцельскае сэмінарыі: „Дынамічныя фактары узгадаваньня“.

такія слабыя былі й рэзультаты вучэньня, што дзеці былі прыкаваны да сваіх лавак? Кершэнштэйнэр, адзін з тварцоў новае працоўнае школы, прапануе дзяцём „закінуць свае кнігі і йсьці ў майстроўню, сад, поле, гарод, лес“ і г. д. паказуючы ў працы запраўднае жарало веды, адзіную правільную мэтоду, што адпавядае патрэбам прыроды дзіцяці і вымаганьням сучасных умоваў грамадзкага жыцьця *).

Ад тэорытычных абасноваў мэтоды працоўнае школы пераходзім да практычнага боку справы. Тут падыймаюцца такія пытаньні: якое месца займае ў школьных занятках фізычная праца, экскурсыі і г. д. ? якая можа быць сувязь іх з кніжным навучаньнем? Ці асаблівыя вымаганьні працоўнае школы не пашкодзяць агульнаўзгадавальным мэтам школы?

Арганізуючы заняткі, працоўная школа ня можа шкадаваць часу на фізычную і т. зв. ручную працу, экскурсыі і г. д. Працоўная школа ня будзе працоўнаю без заняткаў вучняў у школьным садзе, гародзе, на краскоўніку **), на полі, у майстроўні — у залежнасьці ад мясцовых умоваў. Хаця фізычная праца не складае ў школе асобнага прадмету, які да таго-ж ставіў-бы сабе якія-колечы карысныя мэты, напр., каб мець прыбытак ад вырабаў ці прадуктаў садаўніцтва, гародніцтва і г. д., аднак, выходзячы з пагляданаў вылучна пэдагагічных і псыхолёгічных — **фізычная праца й экскурсыі павінны быць у школе кожны дзень, адбывацца ўсім школьным колектывам, з усёй уважлівасьцяй і пляноваасьцяй.** І трэба, каб была дасягнута кожын раз якая-колечы відавочная сур'ёзная мэта, што апраўдавала-бы патрачаныя на яе сілы, час і сродкі, і заахвочавала да далейшае працы. Другое вымаганьне—**каб экскурсыі і фізычная праца была ня звонку толькі, а арганічна звязана з кніжным навучаньнем**, служачы для большага ўзмацаваньня і т. ск. конкрэтызацыі кніжнае веды і ў сваю чаргу робячыся праз кнігу рацыянальнейшаю, балей паглыбенаю. У кожнай клясовай хрэстаматыі ёсьць, напр., стацьці аб глебе, угнаеньні зямлі, будове й узрастаньні насеньня, аб жыцьці расьлінаў, уплыве атмосфэрных зьменаў і г. д.

Працуючы ў школьным гародзе, вучні практычна падыйдуць да ўсіх гэтых пытаньняў; кніжка, тэорыя цесна праз гэта злучацца з жыцьцём; вучань дастане запраўдную веду, так патрэбную пры формаваньні яго сьветапагляду. Што яшчэ трэба асабліва падчыркнуць — гэта **неабходнасьць ставіць фізычную працу колектыўна**, бо толькі ў умохах колектыўнае працы вытвараюцца грамадзкія навыкі, узгадаваньне якіх складае адну з найважнейшых мэтаў працоўнае школы: тут усе працуюць роўна, адзін аднаму памагае, кожны рупіцца зрабіць не горэй за свайго сябру,

*) ibid. **) Краскоўнік — гародчык краскаў.

праз гэта ўзбуджаецца нешкадлівае супараваньне (выпярэдніцтва) і г. д. **Колектыўнасьцяй нікольні не вылучаецца самастойнасьць вучняў**— бо кожны мае, працуе й даглядае сваю невялічкую дзялянку гароду ці саду. Пры той прымітыўнасьці, з якою ў нас наагул вядзецца гародняя гаспадарка, ці такая спачатку дзіцячая, але добра кіраваная гародняя культура ня зможа з працягам часу адгуляць сваю ролю ў узвышэньні наагул вясковага гародніцтва?

---

МАРЫЯ СТАНКЕВІЧЫХА.

# Школы ў Злучаных Гаспадарствах Паўночнае Амэрыкі.

Злучаныя Гаспадарствы Паўночнае Амэрыкі так мала залежаць ад цэнтральнае ўлады, што кожнае гаспадарства выдае аб школьстве, ахове здароўя і гандлю свае асобныя законы, каторыя бываюць рознымі ў асобных гаспадарствах. Прыродна, што ў амэрыканскім школьстве гэтая розьніца прадстаўляецца так, што ў тый час як адно гаспадарства мае вельмі добрыя школы і акуратнае адведаваньне іх дзяцьмі, у другім гаспадарстве нямаш права аб абавязкавым вучэньню ў пачаткавых школах а школаў недаволі.

Сыстэма амэрыканскага школьства гэткая: найніжшая школа (grammar school) ёсьць у большасьці гаспадарстваў абавязкавая і трывае 8 год, ад 6 — 14. Навука дармавая; школы ўдзержуе гаспадарства й воласьць. Кожная кляса мае свайго вучыцеля або вучыцелку, каторых цяперака большасьць. Вучаць арытмэтыкі й геомэтрыі, пісаньня, чытаньня, граматыкі, стылю, географіі, гісторыі Злучаных Гаспадарстваў, грамадзянскай навукі, пяяньня, рысаваньня, асноваў фізыкі, фізыёлёгіі й гігіены. Шмат пачаткавых і іншых школаў ёсьць прыватных, удзержаваных рэлігійнымі і іншымі таварыствамі. У суботу і ў нядзелю ня вучаць. Перад вясковымі школамі бываюць над дарогаю напяты кускі палатна, а на іх напісана: „Едзьце памалу! не перашкаджайце: школа!“

Сярэдняя школа (high school) неабавязкавая — чатыраклясная і раўняецца прыблізна нашай гімназыі без найніжшых клясаў. У некаторых гаспадарствах навука ў гэтай школе дармавая, у іншых плацяць ад 10 да 150 даляроў у год. Вучаць шмат прадметаў: лацінскай і новых моваў, гісторыі, фізыкі, хэміі, біолёгіі, гандлёвых прадметаў (бугальтэрыі, пісаньня на машыне і стэнографіі), ручных работаў (разьба і інш.), гаспадаркі (дзяўчат вучаць варыць і шыць), рысаваньня, музыцы і іншых. Ня ўсе прадметы

абавязкавыя, вучні могуць выбіраці паводле сваіх здольнасьцяў. Лацінская мова належа да прадметаў неабавязкавых.

З гэтае школы можа вучань пастуціць на ўнівэрсытэт або ў колегію (college). Унівэрсытэты зусім падобныя да нашых эўропейскіх унівэрсытэтаў, але колегія ёсьць тыпічнай школай амэрыканскай. Яна твора пераход паміж нашай гімназыяй і унівэрсытэтам. У першым годзе студэнт у ўнівэрсытэце часта не разьбіраецца, бо ад яго вымагаюць навуковае працы, каторай ён у гімназыі не навучыўся. У колегіі вучань выбірае сабе дзьве спэцыяльнасьці (адумысловасьці), каторыя праходзе, пачынаючы зьявамі элемэнтарнымі і аднача̄сна вучыцца навукова працаваці ў сваёй адумысловасьці (прыкладам ляборатория). Выклады профэсара дапаўняе вучань абавязкавым чытаньнем, карыстаючы з багатай бібліотэкі ў кожнай колегіі і ў унівэрсытэце. У тыдзень слухае вучань 15 лекцыяў: лічыцца, што на адну лекцыю трэба дзьве гадзіне гатавацiся. Унівэрсытэты ў большасьці мяшаныя, колегіі—асобныя хлапецкія і асобныя дзявоцкія. Траха кожнае гаспадарства мае свой унівэрсытэт і колегію, але апроч таго ёсьць яшчэ школы прыватныя. Найведамшыя колегіі і ўнівэрсытэты ў усходніх гаспадарствах. Па скончэньню колегіі трэба яшчэ вучыцца год у унівэрсытэце і падаць дысэртацыю, каб стаць профэсарам сярэдняе школы. Хто вучыцца за лекара ці адваката, той з сярэдняе школы пастуае адразу ў унівэрсытэт.

Прыватныя колегіі існуюць ня дзеля заробку. Імі кіруе рада закладчыкаў, каторыя ведамую суму грошаў далі на колегію. Колегіі маюць сваю маемасьць у дарагіх паперах, а часта і ў гаспадарцы, скуль колегіі бяруць сабе еміну; напрыклад: найвялікшы амэрыканскі унівэрсытэт „Columbia University" у Нью-Ёрку мае 30 міліёнаў даляраў рухомае маемасьці, 15 міліёнаў даляраў ляжачае маемасьці (будынкі, апараты, колекцыі і г. д.) і бібліотэку з 450 тысячаў тамоў.

Найцікавейшым у школьным жыцьцю ёсьць супольнае кватэраваньне (гасподнічаньне) ў бурсах студэнтаў у колегіях і ў некаторых унівэрсытэтах. Колегіі ў большасьці на сяле, блізка мэншых местаў. Гэтак прыкладам дзявоцкая колегія „Васар" („Vassar", названая паводле свайго закладчыка Мацея Васара) ёсьць на паўгадзіны дарогі ад места Пакіпсі (40 тыс. людзёў) у гаспадарсьцьве Нью-Ёркім. Электрычны трамвай вядзе з места ажно да колегіі. Бачым перад сабою вялікі парк (сад) з ліставымі й хваёвымі дзеравамі, траўнік з белымі дарожкамі, а між тых усіх выглядаюць будынкі, некаторыя з чырвонае цэглы, некаторыя сьветлыя ў стылі першых англіцкіх унівэрсытэтаў. Цэлы парк абгароджаны плотам, але ня дзеля абмежаньня

свабоды студэнтак. Апрача абавязкавае хадні на лекцыі, а ўвечары ў капліцу, студэнткі могуць займацца чым хаця.

Будынкі, што відаць паміж прысадаў — гэта бурсы студэнтак (у Васары ё каля 1100 студэнтак), ляборатарыі, лекцыйныя залі, студэнцкі дом (на концэрты, вечарыны, агульныя зборышчы і г. д.), заля на спорт і дом дырэктараў. Зараз за плотам колегіі ёсьць мыцяльні хусьця, крамы з самакатамі, фотографічнымі апаратамі і дамы ўраднікаў, занятых у колегіі, так што гэта цэлае невялічкае мястэчка. Кнігарня й емінная крама ёсьць у галоўным будынку. За колегіяй ёсьць 2 возеры; улетку на іх важыняюцца на лодках, а ўзімку коўзаюцца. За возерам ёсьць сад, а далей яшчэ лясок колегіі. Падобна выглядае кожная вялікшая амэрыканская колегія.

4 гады пражытыя ў колегіі ёсьць найпрыямнейшаю парою ў жыцьцю амэрыканскай інтэлігенцыі. Тут ствараецца таварыства й сяброўства на ўсё жыцьцё, тут уходзяць у грамадзкае жыцьцё, вучацца паграмадзку працаваці ў студэнцкай аўтономнай арганізацыі, доляюцца за пяршынство ў спорце і разам гуляюць. Ёсьць тутака нямецкі й францускі клюб, дыскусыйны гурток, што арганізуе дыспуты з іншымі колегіямі, ахвотніцкі тэатр, розныя дабрадзейныя клюбы, рэлігійныя гурткі, оркестр і хор. Кожная кляса мае свае песьні, а кожная колегія свой гымн.

Хоць у Васары ёсьць большасьць студэнтак з заможных сем'яў, ёсьць даволі й такіх, каторыя самі зарабляюць на навуку. За майго вучэньня там выцягнулі прыкладам на калідор высокае крэсла, прынесьлі прылады і за азначаную плату чысьцілі другім вобуй. Іншыя студэнткі пяклі салодкія піражкі і прадавалі іх да гарбаты ў студэнскай кухні. Некаторыя рабілі ў бібліотэццы, іншыя паслугавалі ля столу, іншыя перавозілі маемасьць сваіх сябровак, калі тыя мянялі гасподу (кватэру), некаторыя памагаюць слабым вучаніцам вучыцца і г. д. Ёсьць у Злучаных Гаспадарствах некаторыя колегіі, дзе студэнты плацяць толькі крышку, але затое частку дня працуюць на колегію.

І тыя студэнты, што скончылі, любяць сваю Alma Mater (Дарагую Маці) балей за ўсё. У розных выперадках стараюцца запэўніць ёй пяршынство, гэтак узьнікае супарства*) паміж асобнымі колегіямі. Усе, што скончылі колегію, складаюць таварыства, каторае цікавіцца доляй школы, што іх узгадавала, і памагаюць гэтай школе моральна й матар'яльна. Ёсьць паміж сябрамі гэт'кіх таварystваў старыя бабулі й дзядулі. Тыя, што скончылі, адвядаюць часта колегію і застаюцца на некалькі дзён у ёй, каб прыпомнець вясёлую пару, калісь тамака пражытую. Кожны, хто пазнаў гыгады супольнага жыцьця ў колегіі, жадае, каб усе студэнты й студэнткі маглі так вясёла й дружна пражыці свае студэнцкія гады.

*)Слова чыста беларускае, яму адпавядае расейскае—„соперничество“.

# НЕШЧАСЬЛІВЫ ЧАЛАВЕК.

**Народная песьня.**

Запісаў А. Стэповіч у Сьвянцяншчыне.




⁂

Нешчасьлівы чалавек, што ў карчомачцы п'е,
А прышоўшы да домачку сваю жоначку б'е.

⁂

„Ой, ты мілая мая, чарнабрывая мая,
Як-жа мне цябе ня біць, калі ня ўмееш рабіць.

⁂

„Ані прасьці, ані ткаці, ані шыці, ані мыці;
Ані шыці, ані мыці, як-жа мне з табой тут жыці?"

⁂

Ой пашоў-жа чалавек на круценькі беражок,
Крыкнуў, гукнуў галаском: „Рыбалоўнікі мае!

⁂

„Рыбалоўнічкі мае, ўсе чатыры вы мае,
Ой вазьмеце няўдалішчу, ой вазьмеце ад мяне!"

⁂

Ой прышоў-жа чалавек, ды да свае хатачкі,
А знайшоў-жа дзетак малых на парозе плачучы:

⁂

— „Ой татачка, татачка, а дзе-ж наша мамачка,
Ці ўтапіў ты, ці забіў, ці ў ціхі Дунай пусьціў?"

⁂

— „Ціха, дзеткі, ня плачце, будзе мама другая,
Будзе мама другая, слаўная, маладая".

⁂

— „Ой татачка, татачка, мы ня хочам другое,
Мы ня хочам другое, ні слаўнай, маладое".

⁂

Ой пашоў-жа чалавек на круценькі беражок,
Крыкнуў, гукнуў галаском: „Рыбалоўнічкі мае!

⁂

„Рыбалоўнічкі мае, ўсе чатыры вы мае,
Ой аддайце няўдалішчу, ой аддайце для мяне!"

⁂

— „Ой ты дурань чалавек, падурному гаворыш:
Ўжо свае ты няўдалішчы і ў Дунаі ня зловіш".

# Ехаў, ехаў...

**Народная песьня.**

Запісаў В. Багдановіч у Віцебшчыне.




1. Ехаў, ехаў
   Сьцяпаначка з поля.
2. Забалела
   галованька з гора.
3. А дай, Божа,
   вечара даждацца:
4. Як прыеду,
   пашлю к дзеўцы ў сваты,
5. А сам сяду
   пад красна ваконца, —
6. Буду слухаць,
   што дзеўка гавора.
7. Калі любе,
   Зараз ажанюся;
8. А ня хоча,—
   пайду утаплюся.

---

Друкуем беларускія народныя песьні з нотамі, каб даць беларускім культурна-асьветным т-вам і асобным людзём хоць невялічкую магчымасьць пяяць свае родныя песьні навет і тады, калі яны самі родных песьняў ня ўмеюць. З другога боку, гэтым прычыняемся да развою беларускае музыкі. Просім нашых супрацаўнікоў і спагаднікаў, хто мае, прысылаць нам да друкаваньня ў „Род. Гонях“ беларускія народныя песьні з нотамі. Заклікаем так сама ўсіх, хто можа, каб запісавалі беларускія песьні з нотамі дзеля захаваньня гэтага вялізарнага, але дагэтульнаймене забранага, багацьця беларускага духа і дзеля развою нашае нацыянальнае музыкі.

Рэд. „Род. Гонаў“.

# Культурнае жыцьцё краю.



Зъезд Т-ва Беларускае Школы Косаўскага павету ў м. Косаве селета 20 сакавіка.

## Зьезд Т-ва Беларускае Школы Косаўскага павету

*ў м. Косаве.*

20 сакавіка сёлета адбыўся зьезд прадстаўнікоў Гурткоў Т-ва Беларускае Школы Косаўскага павету дзеля выбару Косаўскае Акружное Ўправы Т-ва. Дэлегатаў зьехалася да 90 чалавек. Ані веснавое разводзьдзе, ані благое надвор'е ня сталі перашкодаю зьезду Косаўцаў, якія за апошнія часы так далёка пашлі ў усьведамленьні нацыянальным і грамадзкім. З усіх куткоў павету, дзе толькі ёсьць Гурткі Т-ва Беларускае Школы, зьявіліся дэлегаты і гэтым самым яшчэ раз падчыркнулі сваю грамадзкую сьвядомасьць і запраўднае гарачае імкненьне да культурна-асьветнае працы. Яны прышлі стварыць новы асяродак беларускага культурнага руху—Косаўскую Акружную Ўправу Т-ва Беларускае Школы і разам з тым, каб даве аццa як ідзе праца на культурна-асьветнай ніве па ўсёй Заходняй Беларусі.

Галоўную Ўправу прадстаўлялі на зьезьдзе старшыня Галоўнае Управы Сэнатар А. Уласаў і працаўнік Управы грамадзянін Жыткевіч.

У 12 гадзінаў сэнатар А. Уласаў кароткаю, але багатаю зьместам, прамоваю адчыніў зьезд. Вітаючы дэлегатаў радаваўся ён, што насеньне пасеянае „Нашай Нівай", дало ўжо такі багаты ўраджай. Ня менш былі захоплены й дэлегаты, бачачы ў асобе сэнатара прадстаўніка першых барацьбітоў за волю й долю Беларускага Народу.

Па выбары прэзыдыюму сходу працаўнік Галоўнае Ўправы, грамадзянін Жыткевіч, зрабіў даклад аб працы Т-ва, якая выявілася ў хаданьні за родную, беларускую школу і ў пашырэньні як школьнай так і зашкольнай асьветы сярод Беларускага Народу. Гаварыў ён аб усіх тых высілках, якія рабіла Галоўная Ўправа і аб усіх тых перашкодах, якія Галоўная Ўправа мусіла пераканаць пры правядзеньні ў жыцьцё вы ;таўленых заданьняў. З дакладу выявілася, што дагэтуль, ня гледзячы на масавае складаньне дэклярацыяў, няма беларускіх урадовых школаў, як няма і прыватных пачаткавых беларускіх школаў, бо і тыя канцэсыі на прыватныя школы, што дастала Т-ва, ня выкарыстаны з тае прычыны, што ніводзін кандыдат, паданы за вучыцеля ў тую ці іншую школу не зацьверджаны.

Успомніў дакладчык так сама і аб перашкодах, якія рабіліся мясцовай адміністрацыяй пры арганізацыі Гурткоў Т-ва, бібліятэк і Народных Дамоў. Але тут усё-ж праца больш удзячная, бо дагэтуль ужо налічаецца да дзесяцёх тысячаў сяброў Т-ва Беларускае Школы і каля 400 Гурт-

коў; праўда, ня ўсе яны дагэтуль залегалізаваны, толькі частка з іх залегалізавана.

Пасьля гэтага дакладу былі праведзены выбары Акружное Ўправы, у склад якой увайшлі:

Мажэйка Міхал — старшыня, Казімерчык Захар—віцэ-старшыня, Трында Міхал—віцэ-старшыня, Дылька Павал — сэкрэтар, Казімерчык Марыя—заступніца сэкрэтара, Турбіна Марыя,—скарбнік, Куіс Сьцяпан—заступнік скарбніка, Кавальчук Антон—кандыдат і Казімерчык Янка—кандыдат.

У Нагляднуюю Раду былі выбраны:

Жыгар Пётра—старшыня, Осіпік Рыгор — сэкрэтаром і Труцька Пётра—сябра. Бык Аляксей і Козік Тодар — кандыдатамі.

Пасьля гэтага сход аднагалосна вынес пастанову аб тым, што ўсе сябры Т-ва Беларускае Школы мусяць уносіць акуратна сяброўскія складкі, каб даць магчымасьць такім чынам працаваць Акружной Управе і частку грошы пераслаць у Галоўную Ўправу Т-ва на агульныя яго патрэбы.

Сход разышоўся ў вельмі бадзёрым настроі, бо кожны з прысутных на сходзе ўжо чуў і бачыў вынікі вялікае агульнае працы і сэрца яго радавалася, бо чуў ён вялікую моц у гэтай шэрай масе забраных дэлегатаў і верыў, што такімі агульнымі высілкамі здабудзе яна сабе лепшую будучыню.

Прадстаўнікі Галоўнае Ўправы былі захоплены інтэлігентнасьцяй, тактоўнасьцяй і разуменьнем справы прысутных на зьезьдзе дэлегатаў. Пакідаючы сход, яны былі пэўны ў тым, што сход гэты заложыў моцную цьвярдыню Беларускага культурна-асьветнага Руху.

Каб увекавечыць памяць аб зьезьдзе ў Косаве, як аб адным з камянёў, паложаных у падмуроўку пад вялікую будыніну беларускае культуры, зьезд у поўным сваім складзе зьняўся.

*Беларус.*

---

## Зьезд Т-ва Беларускае Школы Наваградзкага вокругу.

Навградак 3 красавіка.

3 красавіка ў аднэй з клясаў Беларускае Гімназыі быў зьезд дэлегатаў Таварыства Беларускае Школы дзеля перавыбару Акружное Управы. Зьезд быў выкліканы неабходнасьцю папоўніць дагэтуляшнюю Ўправу новымі сіламі, якімі што дня ўзбагачуюцца рады культурных барацьбітоў за вызваленьне Народу з цемнаты.

У 11 гадз. амаль ня ўсе сябры, вызначаныя на зьезд, сабраліся ў памяшчэньні Акружное Ўправы.

Душа не нарадуецца, гледзячы на гэтых маладых барацьбітоў за лепшую будучыню беларускага народу. Іх заклапочаныя твары, іх удумчывыя гутаркі і дзелавы настрой сьведчаць, што наша будучыня ў нашых руках і што за гэтую будучыню ўжо ня трэба баяцца.

Прыбыло да 60 прадстаўнікоў.

Роўна ў 1 гадз., як было назначана ў павестцы дня, грамадзянін Чатырка, як старшыня Акружное Управы адчыніў зьезд. На парадку дня былі наступныя пытаньні:

а) Справаздача аб працы Акружное Управы,
б) Даклады з месцаў,
в) Перавыбары Акружное Управы,
г) Сяброўскія складкі,
д) Арганізацыйныя справы.

Сябра Чатырка ў сваёй прывітальнай прамове шчыра дзякаваў прадстаўніком за іх працу. Толькі развоем свае слаўнае культуры, якая лічыць да тысяча год, свайго існаваньня, даб'емся сьветлае будучыні. Грамадзянін Чатырка зазначыў шпаркі рост таварыства і пашырэньне яго ўплываў на сялянства. Праца таварыства з кожным днём станавіцца цікавейшаю й пэўнейшаю.

Па гэтай кароткай, але моцнай прамове прыступілі да выбару прэзыдыуму сходу. На старшыню аднагалосна выбралі адваката Сьвірыда. Першае слова бярэ сэнатар Уласаў. Віншуючы ў асобах прадстаўнікоў усіх сяброў Таварыства Наваградзкага павету, сэнатар выказаў пажаданьне, каб і на далей Наваградзкі павет не пакідаў свайго мейсца ў сьцягу перадавых паветаў, якое займае цяпер.

Далей ён адзначыў тое вялізарнае значэньне, якое мае культура ў жыцьці народаў, толькі яна вызваляе чалавека з-пад няволі. Прыклады даў з жыцьця сербаў і чэхаў, якія толькі дзякуючы развою культуры высвабадзіліся ад шмат вяковае няволі. Асабліва яскрава выявілася гэта ў чэхаў. Будучы яшчэ пад нямецкім панаваньнем Чэхі пабудавалі на ўласны кошт тысячы школаў, Народных Дамоў, якія і цяпер выглядаюць як палацы. Выдавалі сотні газэт і журналаў. Кожны Чэх належаў да якое-колечы арганізацыі. Спартыўныя арганізацыі аб'еднавалі ўсю чэскую моладзь. Усё гэта Чэхі ўтрымлівалі самахвотнымі ахвярамі. Пры ўсялякай магчымасьці чэх стараўся адлажыць грош на сваю асьвету.

У украінцаў так сама культурная справа стаіць добра. У Галіччыне яны маюць сотні Народных Дамоў і шмат бібліатэк-чытальняў. Сёлета будуюцца 3 Народныя Дамы, паміж іншым Народны Дом, які будуецца ў Халме, будзе каштаваць 60 тысячаў злотых.

Нават палякі, ня гледзячы на мноства сваіх урадовых, маюць яшчэ прыватныя культурныя ўстановы, як напрыклад „macierz szkolna“, якая пераважна на ахвяры ўтрымлівае сетку раскіданых па ўсім краі школ, народных дамоў і бібліатэк-чытальняў.

Што да нас беларусоў, то мы за мінулы год зрабілі надта многа. Ужо маем з выш 10 тысяч сяброў, якія шчыра працуюць на культурнай ніве. Лічба гэтая з кожным днём павялічаецца, маем да 400 гурткоў, сотні бібліатэчак, дзесяткі Народных Дамоў. Дзякуючы гэтай працы, нават тыя, што нас ня лічылі людзьмі, загаварылі іншаю моваю.

Сябра Чатырка зрабіў даклад аб працы Акружное Управы.

Ня гледзячы на надта цяжкія варункі, асабліва на пачатку, пры якіх вялася праца, Наваградзкая Акружная Управа мае ўжо 1847 сяброў. Лічба гэтая, як сказаў дакладчык, хутка павялічаецца, бо пачуцьцё нацыянальнае расьце не па днёх, а па гадзінах. Адчынена 24 бібліатэкі-чытальні і ўсе яны працуюць за выняткам Ахонаўскай, гдзе камандант, не зважаючы на распараджэньне старасты, дагэтуль робіць перашкоды. Заяваў на адчыненьне Народных Дамоў дастана 15. Гурткоў ёсьць 52. Прыймаючы пад увагу, што працаздольнасьць гуртка залежыць ад лічбы сяброў, Управа старалася злучаць сяброў з бліжэйшых вёсак у адзін Гурток. Спэктакляў ад пачатку гэтага году да красавіка пастаўлена 14, ня лічачы гімназыяльных вечарынаў. Улетку, калі можна будзе выкарыстаць на спэктаклі гумны, гэтая справа пойдзе лепш. Арганізаваны струнны аркестр у м. Любчы. Аркестр мае да 30 музычных прыладаў. Дзякуючы стараньням мясцовага рэгента, сябры ўжо добра граюць па нотах.

Цяжкая так сама справа з арганізацыямі хораў. Знаходзяцца і рэгенты, якія з ахвотаю ўзяліся-б за гэтую працу, але няма нотаў.

Перад выбарамі Управы, быў зроблены 10 мінутны перарыў, каб даць магчымасьць намецiць кандыдатаў.

Пасьля перарыву прыступілі да выбару Управы.

Выстаўлена 12 кандыдатаў у Управу і 5 у Наглядную Раду. З дакладаў дэлегатаў відаць, што вёска надта цікавіцца лекцыямі, асабліва па беларусазнаўству, і прасілі, каб Акружная Управа пайшла ім на спатканьне. Пастаноўлена, што сябры з вёсак павінны паведамляць Акружную Управу, калі і на якую тэму хацелі-б мець лекцыю і на азначаны дзень прысылаць хурманку па лектара. Да чытаньня лекцыяў можна прыцягнуць нашу безработную інтэлігенцыю, якое цяпер шмат ёсьць па вёсках.

Выказаны былі некаторымі сябрамі пажаданьні аб арганізацыі пры гуртках чыста асьветных сэкцыяў, каб даць

магчымасьць вучыцца малапісьменным сябром. Парушана было некалькі пытаньняў аб перашкодах у працы з боку ўлады, як напрыклад у Ахонаве, дзе ўжо 2 месяцы як цягнецца справа з адчыненьнем бібліатэкі-чытальні, але высьнілася, што большасьць такіх перашкодаў залежыць ад месных пастарункаў, а ў старастве і ў ваяводзтве цяпер ня робіцца перашкодаў культурнай працы Таварыства.

Сябра Чатырка дадаў, што староства не адказавала тым гуртком, гдзе неадбыўся сход дзеля таго, што юрыдычна там гурток яшчэ ня існуе і ўся перапіска павінна весьціся праз Акружную Ўправу, а калі гурток ужо лічыцца залегалізаваным, то сам можа паведамляць старасту аб дазволе на сход, вечарыну і г. д., але паміма гэтага гурткі павінны прысылаць у Акр. Ўправу справаздачу з свае працы.

Дакладчыкі выявілі пажаданьне, каб стварыць у Наваградку культурны цэнтр, адчыніць Народны Дом, бібліатэку й кнігарню. Чатырка адказаў, што справа з кнігарняю на гэтых днёх выясьніцца, а арганізацыя Народнага Дому і бібліатэкі залежаць ад дабрадзейнасьці сяброў.

У канцы Зьезд аднагалосна вынес наступную рэзалюцыю:

Мы сябры Таварыства Беларускае Школы Наваградзкага вокругу пастанавілі:

1) Дамагацца, каб урад адчыніў толькі беларускіх пачаткавых школ, на колькі пададзена дэкляарацыяў.

2) Дамагацца сярэдніх беларускіх школ і памогі існуючым гімназыям.

3) Наданьня правоў публічнасьці ўсім існуючым беларускім гімназыям і тым, што будуць адчыняцца.

4) Адчыненьня катэдры беларусазнаўства пры Віленскім Унівэрсытэце.

Пасьля Зьезду дэлегаты сфатаграфаваліся на Замковай гары пры руінах замку вялікага князя Міндоўга, гаспадара Беларуска-Літоўскага Гаспадарства.

Н а в а г р а д з к і.

А д Р э д а к ц ы і: Фотографію Наваградзкага Зьезду Т-ва Беларускае Школы падамо ў маёвай кніжцы „Родных Гоняў“.

---

## З беларускіх культурных арганізацыяў.

I.

Галоўная Ўправа Таварыства Беларускае Школы ня раз зьвярталася да грамадзян, уступаючых у сябры Т-ва, каб у заявах сваіх яны падавалі поўныя дадзеныя аб сабе і аб Гуртку Т-ва, які маюць стварыць. Але дагэтуль у новападаных заявах вельмі часта гэтых дадзеных няма. Дык

зьвяртаемся да ўсіх грамадзян, што ўступаюць у сябры Т-ва, з просьбай падаваць ясна наступное: імя й прозьвішча, імя бацькі, прафэсыю (хто чым займаецца), дакладны адрэс кожнага сябры і дзе месьціцца Гурток Т-ва (павет, воласьць, вёска, № хаты і імя й прозьвішча гаспадара хаты).

* * *

Управы некаторых Гуртkoў зьвяртаюцца да Галоўнае Управы з просьбай выслаць ім пасьведчаньні аб тым, што яны ёсьць сябрамі Управы Гуртка. Такое пасьведчаньне не абавязкава мець, бо таму, хто будзе хацець навясьці спраўкі, ці запраўды даныя асобы ёсьць сябрамі Управы Гуртка — можна давесьці гэта пратаколам агульнага сходу, на якім была выбрана Управа Гуртка.

---

# Да ўсіх сяброў Т-ва Беларускае Школы

**ў справе сяброўскіх складак і матар'яльнага падтрыманьня Т-ва наагул.**

Грамадзяне! Калі ў свой час Т-ва Беларускае Школы зьвярнулася з заклікам складаць дэклярацыі на родную беларускую школу, Вы, сьвядомыя патрэбы свае роднае школы, адклікнуліся на гэты заклік як адзін і, ня гледзячы на перашкоды, што спатыкалі Вас на кожным кроку, споўнілі свой грамадзкі абавязак. Галоўная Управа Т-ва Беларускае Школы зьвярнулася да Вас так сама з заклікам арганізаваць Гурткі Т-ва, бібліятэкі й Народныя Дамы. І на гэты кліч Вы адклікнуліся і цэлымі грамадамі пачалі запісавацца ў сябры Т-ва і заняліся гэтай працаю. Вынікам гэтае працы ёсьць тое, што ўжо цяпер Т-ва Беларускае Школы налічае да дзесяцёх тысячаў сяброў, да 400 Гурткоў, да 100 бібліятэк-чытальняў і да 25 Народных Дамоў. Такім чынам Т-ва Беларускае Школы ахапіла шырокую беларускую народную гушчу, стала масавай арганізацыяй, за апошняга паўгода свайго існаваньня. Гэты рост Т-ва паказаў што можна зрабіць супольнымі сіламі пры сьвядомасьці сваіх патрэбаў і пры жаданьні. Але цяпер ужо мала таго, каб толькі старацца павялічыць лічбу сяброў Т-ва, найбольшую ўвагу трэба зьвярнуць на ўзмацаваньне яго. Трэба старацца, каб гэта дзесяцітысячная гушча сяброў Т-ва ня была толькі зарэгістраванай на паперы, а каб усімі магчымымі спосабамі праводзіла ў жыцьцё мэты й заданьні, выстаўленыя Т-вам пры арганізацыі. У статуце Т-ва ўсе гэтыя мэты й заданьні азначаны з большага, а ў хуткім часе Галоўная Управа апрацуе падробна праграму асобных установаў Т-ва. Але каб

правясьці іх у жыцьцё — трэба, каб кожная ўстанова была здольнаю да гэтага, дзеля чаго трэба консолідаваць усе здольныя да працы сілы, а галоўнае ўзмацаваць матар'яльна ўсе ўстановы Т-ва: і Гурткі, і бібліятэкі-чытальні, і Народныя Дамы. Дзеля таго ўсе сябры Т-ва мусяць яшчэ большую ўвагу зьвярнуць на сяброўскія складкі і наагул да жывога вучасьця ў працы мусяць дадаць яшчэ чым больш грамадзкае грашавое ахвярнасьці. Грамадзяне! Помніце, што калі мы самі сабе не паможам—ніхто нам не паможа!

Хай будзе вам ведама, што ўсе адраджаючыяся народы: Чэхі, Сэрбы, Палякі, Украінцы і інш., ня маючы сваіх школаў і культурна-асьветных арганізацыяў на ўтрыманьні гаспадарства, у якім яны жылі—сваімі ўласнымі сяродкамі ўтрымлівалі і пачаткавыя, і сярэднія і вышэйшыя школы і здолелі іх разьвіць так, што стаялі яны ня ніжэй як урадовыя, чужыя ім школы. З гэтага відаць на колькі іх грамадзянства разумела свае неабходныя патрэбы і на колькі ў яго была разьвіта ахвярнасьць. Хай-жа сьвятлейшыя чыны гэтых народаў і для нас, у цяжкі для нас час, будуць добрымі прыкладамі.

Грамадзяне! Нас разумеючых свае патрэбы, патрэбы роднае школы й асьветы наагул, не адзінкі, а тысячы. Доказам гэтага можа служыць хоць бы й тое хаданьне, якое мы вялі й вядзём за родную беларускую школу і тая лічба сяброў, якую мае цяпер ужо Т-ва Беларускае Школы. Калі мы ўсе будзем унасіць акуратна сяброўскія складкі, хоць па тэй мінімальнай норме, якая вызначана ў Статуце Т-ва (50 грашоў за месяц, або паўтара прац. ад месячнага заробку), то ўжо назьбіраецца вялікая сума, маючы якую, мы зможам шырака павясьці сваю працу.

Дык усе Грамадзяне, сябры Т-ва Беларускае Школы, як адзін уносьце сяброўскія складкі самі і падганяйце да гэтага другіх! Незабывайцеся, што грамадзкая ахвярнасьць ёсьць асновай усяе нашае працы, ёсьць асновай нашага шчасьця, нашага дабрабыту, што без грамадзкае ахвярнасьці мы ніколі не даб'ёмся спаўненьня нашых сьветлых ідэалаў.

Дык не жалейце-ж самі сабе! Мы відзім, што нават народы ў сваіх дзяржавах ахвяровуюць на свае культурныя й грамадзкія патрэбы вялікія сумы грошаў, ня гледзячы на тое, што маюць урадовыя школы ўсялякага тыпу. Відзець гэта можам і на палякох, якія маючы польскія ўрадовыя школы ў сваім краі і ў нас—апрача гэтага маюць яшчэ і розныя прыватныя культурна-асьветныя ўстановы, на якія яны ахвяровуюць значныя сумы. Што-ж казаць тады нам беларусам, нам, не гаворачы ўжо аб сярэдніх і вышэйшых, ня маючым пачатковых школаў... гэтай мінімальнай патрэбы кожнага народу, і найбольш асталага

ў культурным сэнсе. Не забывајмася, што ў нас такі вялікі працэнт няпісьменных (ад 70 да 80 на 100 чалавек). Дык што-ж, мы будзем цярпець гэту ганьбу й крыўду і на далей? І на далей ня будзем даваць сваім дзеткам і сабе асьветы? Не! Станоўка не!

А калі не—дык не пажалеем-жа ахвярнасьці на сьвятую нам, культурна-асьветную справу.

Заклік гэты адносіцца ня толькі да сяброў Т-ва Беларускае Школы. Заклік гэты адносіцца да ўсіх беларусаў, да ўсіх грамадзян, якія разумеюць што такое для нас асьвета, не залежна ад таго, гдзе яны, ці ў краі, ці за граніцай у Эўропе, ці ў Амэрыцы. Няхай і тыя, што знаходзяцца заграніцай і відзяць, як жывуць людзі, успомняць на свой родны Край, на свой родны Народ і хай прыпомняць, у якой цемры яны пакінулі яго, ад‘яжджаючы з Краю. А прыпомніўшы, хай не адмовяцца памагчы ахвярамі тым высілкам, якія робіць цяпер Т-ва Беларускае Школы, ходаючыся з найстрашнейшым ворагам нашым—з цемрай.

Дык у добры час! Хай словы гэтыя не адпадуць, як гарох ад сьцяны, ад кожнага грамадзяніна, а хай западуць яму глыбака ў душу, каб давясьці да добрага чыну, да якога тут робіцца заклік.

**Галоўная Ўправа Т-ва Беларускае Школы ў Вільні, вул. Сьв. Ганны (Аппу) 2—3.**

---

# Культурныя курсы ў „Родных Гонях“.

У кожнага Беларуса як інтэлігентнага, паўінтэлігентнага, так і малапісьменнага зьяўляецца шмат розных пытаньняў у галіне беларускае культуры і культуры наагул. Пытаньні гэтыя бываюць як характару практычнага так і тэорытычнага. Прыкладам: бываюць некаторым людзём незразумелыя словы ў літаратурнай мове беларускай або словы, каторых яны не хацелі - б ужываць у літаратурнай мове або ізноў у іхняй мясцовасьці ёсьць такія словы й хвормы словаў, што дагэтуль ня ўжываюцца ў літаратуры, але каторыя на іхні пагляд павінны былі- б быць у літаратурную мову ўведзены, пытаньні аб паходжаньню й часе ўзьніку беларускае мовы, яе адносінах да іншых славянскіх моваў, розныя пытаньні аб беларускай літаратуры старой і новай, гісторыі Беларусі, руху і г. д. і г. д. А ці мала ёсьць пытаньняў аб культуры сусьветнай, культуры наагул? Найчасьцей гэтыя пытаньні астаюцца без адказу, бо ў Заходняй Беларусі мы ня маем беларускіх школаў вышшых і ніжшых і надта мала сярэдніх (усяго 4 гімназыі), а існуючыя ў нас школы чужыя прыносяць нашаму народу часта

балей шкоды як карысьці. Але пытаньні, на каторыя людзі не дастаюць адказу, пытаньні не разьвязаныя, запыняюць разумовы развой іхні.

Каб памагчы ў гэтай бядзе, адчыняем на старонках „Родных Гоняў“ адзьдзел „Культурныя курсы“. У гэтым адзьдзеле будзем даваці адказы на ўсе пытаньні ў межах духовае культуры, а па магчымасьці й культуры матар'яльнае—эканомікі. Ёсьць шмат Беларусаў, каторыя пішуць вершы, апавяданьні, повесьці, драмы і да гэт. пад. і ня ведаюць, чаго варта іхняя праца і ці пісаць ім далей. У рэдакцыі „Родных Гоняў“ ёсьць вучоныя адумыслоўцы, крытыкі, што патрапяць ацаніць іхнія творы і даць здаваляючы адказ аўтарам.

Дзеля цяжкога матар'яльнага палажэньня „Родных Гоняў“ будзем даваць адказы толькі падпішчыкам „Родных Гоняў“.

Як будуць выглядаць гэтыя адказы, нашыя чытары пабачаць з самых адказаў, першы з якіх гэтта друкуем.

**Рэд. „Родных Гоняў“.**

## Адказ грам. Пяткуну, аўтару „драмы“ ў 3 адслонах — з сучаснага жыцьця — пад назовам „І нас разбудзілі“.

Паважаны Грамадзяніне, ня маем магчымасьці надрукаваць твор Ваш у 2 бліжшых кніжках нашага часопісу: красавіковая была ўжо запоўнена, наступная мае быць пасьвячана творству Максіма Багдановіча.

Але хацелася, каб Вы найбарждзжэй даведаліся ад нас аб вартасьці Вашага твору ды ня спынялі далейшай працы ў выбраным сабе кірунку. Дзеля таго пішам Вам гэты ліст, друкуючы яго тут, каб ведалі аб ім і ўсе нашыя чытачы. Дык наўперад, грам. аўтару, дазвольце павіншаваць Вас: Вы маеце ўсе даныя для ўдачнай працы ў тэй галіне літэратуры, якую выбралі сабе.—У вас ёсьць жывое, запраўды драматычнае пачуцьцё жыцьця: ёсьць актыўная вера ў тое, што сіла асобнай адзінкі, а тым балей—адзінкі, зьвязанай кроўна й духоўна з непераможным імкненьнем свайго роднага народу да лепшага людзкога жыцьця, — запраўды перарабляе па сваёй думцы акружаючы сьвет. А ведама-ж, — без такіх адзінак ня творацца драмы — ані ў жыцьці ані ў літэратуры.

Вы маеце, апрача таго, наагул рэдкую здольнасьць: як кажуць,—пачуцьцё сцэны.—Вы ўмееце паказаць чытачу ці глядзеньніку—на сцэне кавалак жыцьця — у яго тыповым абразе, характэрным для нашае сучаснасьці; Вы добра валадаеце важнейшай у драматычным творстве штукай — простага, але якраз у гэтай прасьціні—мастацкага цыялёгу (гутаркі дзьвюх асобаў), які ёсьць галоўным спосабам —

для выяўленьня перад намі характараў дзеючых асобаў дый наагул—развою ўсяго дзеяньня драмы.

Але Вы маеце да таго-ж яшчэ вялікі й дарагі скарб—высокі чалавечы ідэал, з вышыні якога пэўне-ж толькі й можна дабрародна пачуць, ацаніць памастацку выявіць запраўдны драматызм жыцьця.

Але гэтыя Вашыя таленты накладаюць на Вас вялікі маральны абавязак—дасканаліцца—паглыбляць веду, шырыню кругазору ды прысвояваць сабе дасьлед найлепшых мастакоў, паміж іншым у галіне драматычнай тэхнікі. Гэтая тэхніка ведае найлепшыя формы й спосабы дзеля таго, каб выкарыстаць найляпей для сцэнічнага эфэкту ўвесь той жыцьцёвы матар'ял, каторы згрупавала, абдумала і памастацку ператварыла ў драму творчая душа аўтарава.

Мы-б толькі радзілі назваць Вашую „драму" скрамней—„драматычнымі сцэнамі" ці - неяк падобна. Бо цэльнай, закончанай драмы, як гэта прынята разумець, у Вашым творы няма. Хаця й тут у Вашым творы адбіваецца нешта новае, на што, можа, і ня зусім ужо так абавязкавы старыя формы „тэорыі".

Справа ў тым, што прынятае агульна паймо драмы прадбачыць вышазначаную актыўную адзінку — адну ці некалькіх—пастаўленую жыцьцём у такія абставіны, якія вытвараюць у іх унутраную барацьбу, каторая так ці інакш разьвязуецца—ці перамогай ці паражэньнем.

У Вас ані ў галоўнага героя ані ў каго з іншых асобаў ніякай барацьбы ўнутраной ня відаць. Можа, гэта дзеля таго, што запраўдным героям тае вялікай драмы, каторая стаіць за Вашай „драмай", ёсьць народ... Дык Вашаму герою, прадстаўніку гэтага Народу — няма ў чым сумлявацца, няма з чым вясьці ўнутраной барацьбы...

Зробім кароткі агляд Вашага твору.—

Вы вельмі добра, як кажуць, завязалі вузёл драмы, што так і завецца тэхнічна „завязкай". Вы вывелі на сцэну — у цэнтры ўсяго твору — маладую кахаючую пару галоўных герояў:—

Ён дзяцюк Кастусь, тып новага, сьмелага, разумнага, дабрароднага супакойна пэўнага ў сабе, барацьбіта за лепшую народную долю; яго знае, шануе, любе й падтрымлюе сьвядомая маса сялян; яго—ну, ясна-ж,—ненавідзяць, шукаючы на яго згубы,—усе цёмныя, варожыя сілы нашага сучаснага жыцьця, — чужыя, а што найгарэй, — і свае: найміты ды зраднікі...

Яна, дзяўчына Марыня, простым кахаючым сэрцам любе Кастуся, жадае ціхога супакойнага шчасьця, дзеля

чаго хоча адцягнуць ад рызыкоўнай барацьбы й працы выбранца свайго сэрца.

Але—пад магутным уплывам дабрароднага, цьвярдога характару Кастусёвага і ў ёй прабуджаецца нешта іншае: вышшая духоўная сувязь з мілым сэрцу чалавекам, якая і яе мае зрабіць—таварышам яго жыцьця, барацьбіта...

Мы ведаем, што нічога няма на сьвеце дужшага, неперамажнейшага, як гэткая крэпка кахаючая ды духоўна-зьвязаная маладая пара твярцоў новага жыцьця... Але якраз, з другога боку, у ўнутраным жыцьці такой актыўнай творчай маладой пары вельмі мала ўнутраной барацьбы, ці — матар'ялу для драмы, як гэта разумеецца звычайна...

Аўтар знайшоў надзвычай удачныя шчасьлівыя словы для выяўленьня пачатку гэтага „перавароту" ці ўздыму ў душы Марыні,—яе адмовы ад „ідэалу" супакойнага багатага жыцьця жонкі пісаравай, які яна мяняе на іншую цяжкую долю—жонкі-таварышкі барацьбітовай...—

„Пайшоў мой ненаглядны. Божухна, як я яго люблю. Так бы, здаецца, і паляцела за ім... Падабаецца мне ён увесь...—падабаецца навет і тое, што — ня слухае мяне... Не згадзіўся быць пісарам. Выбраў ён сабе дарогу і сьмела, з верай ідзе па ёй, і ніхто яго ня зманіць з яе"...

Гэта-ж — запраўды мастацкі штрых, канчаючы I акт, завязуе быццам увесь галоўны вузёл драмы. Навакол маладой пары, увасабляючай новае жыцьцё, зьбіраюцца грозныя хмары.—Аўтар навакол яе групуе вельмі добра й проста цэлы рад зьвязаных з ёй асобаў:—бацьку з маткай Марыні, якія маюць свае клопаты й беды; сям'ю бедную Кастуся, адзінага карміцеля яе—бо бацька памёр. З другога боку, навакол Кастуся, групуюцца таварышы ды непрыяцелі ягоныя ў барацьбе; з апошніх — прадажнік, зрайца Гаўрыла, што—па намове „ўладаў"—падкідае Кастусю „бібулу". Урэшце—неабходныя пэрсанажы ўсялякай беларускай драмы—у жыцьці і ў літэратуры—усякага роду—начальства: паліцыянты, турэмшчыкі, пракурор...

Але ў I акце завязаўся і так і астаўся завязаным вузёл каханьня—у драматычных абставінах—маладой пары: мы нічога ня бачым ды ня чуем аб гэтай пары...

II акт дае абраз беднага жыцьця ў Кастусёвай хаце, кароткія гутаркі сяброў Кастусёвых, абраз ночнай рэвізыі й арышту Кастуся.

III акт ужо—у вастрозе. Тут ізноў—новыя таварышы; іх вельмі добра ўложаныя гутаркі, у якіх выяўляюцца высокія духоўныя настроі Кастуся і цьвярды супакойны характар гэтага барацьбіта новага тыпу.

Тут рысуецца галадоўка палітычных вязьняў у турме, якою кірує, уздымаючы іх дух пратэсту, але стрымлюючы іх у супакойных, праўных і разумных межах,—Кастусь.

У выніку галадоўкі, падтрыманай звонку дэманстрацыяй працоўных—пракурор спаўняе рад законных дамаганьняў вязьняў, якіх сьпярша неяк набілі ў вастрозе...

Адначасна—на волі, у вёсцы Кастусёвай ды навакол яе ідзе, як вецер па залатой ніве, хвалямі па людзёх, — акцыя падтрыманьня свайго барацьбіта, які сядзіць у вастрозе...

У турму яму шлюць нейкім дзіўным шляхом — лісты й грошы...

Сяменьне духоўнага аб'яднаньня народу расьце...

У гэткай атмасфэры борзда раскрываецца агідная правакацыя Гаўрылы, які, напіўшыся, „зьвяраецца" таварышам Кастусёвым у сваім учынку...

У пэрспэктыве—борздае звальненьне Кастуся і новыя цяжкія спробы барацьбіта...

Перад звальненьнем Кастусь вядзе харошыя гутаркі з вязьнямі — аб непераможнай сіле новага — супакойнага ў пачуцьці свае сілы — арганізаванага руху і палітычнай і культурнай працы сярод сялянства...

З гэтага агляду мы бачым, што аўтар даў — першы крок, першыя „хрэзьбіны" — правакацыяй і вастрогам— барацьбіта за народную Волю й Долю... За ім стаіць запраўдны, але нявідны зусім Герой Драмы—Народ...

Першы крок барацьбы канчаецца — перамогай, але перамогай, што прайшла спробу, якая духоўна паглыбляе й украпляе адзінку барацьбіта і разам з ім—масу Народу...

У гэтым — галоўная ідэя „драмы", яе, як кажуць — „пэрэпэтыя".

„Мы тут седзячы ў турме, у гэтых каменных сьценах, і то — змусілі споўніць нашыя дамаганьні... А няўжо - ж працоўныя, што на волі, не даб'юцца свайго"...

Гэткім надзейным пачуцьцём „першае перамогі", праўда,—у вастрозе..., канчаецца „драма".

---

Трэба ў канцы агляду дадаць некалькі слоў — так сказаць,—„На абодва бакі"...

Наўперад,—ясна, што аўтар з сваім героем — залішне оптымістычны наагул... Але трэба прызнаць, што гэты оптымізм аўтараў яшчэ нядаўна меў вялікія падставы і глыбокае карэньне ў настроях шырокіх масаў Народу... Дык „драма" яго—вельмі характэрная для ведамага пэрыяду беларускага сялянскага жыцьця...

Аўтар паказуе нам, як супакойна, як чалавек з чалавекам, рачова й проста, гутарыць Кастусь з пракурорам,—фактычны

прадстаўнік Беларускага Народу з афіцыяльным прадстаўніком улады...—

Нядаўна слаўны францускі міністар Брыян так справядліва хваліў гэты спосаб — „гуманізацыі дыскусыі" (ачалавечаньня гутаркі дзьвюх варожа-праціўных старонаў)... Ён падчыркаваў, што няма разумнай і добрай „амбіцыі" ў тым, каб за ўсялякую цану— „ня ўступаць", калі ідзе— аб мір, аб тым, каб абмінуць вайну, кроў...

Трэба зразумець абедзьвюм старанам, што пачуцьцё перамогі тае з іх, чыя праўда, каторая ходаецца ў імя сьвятых правоў чалавека й грамадзяніна, у імя Дабра й Праўды,—ня робе шкоды, але дае вялізарныя карысьці таму гаспадарству, у каторага сьмяротная барацьба мае магчымасьці — ператварацца ў гэткую — „гуманізаваную дыскусыю"... Аднэй старане яе „першая перамога" дае веру масам у супакойныя спосабы барацьбы, робе павадыроў-барацьбітоў велікадушнейшымі... Другой старане, ну— хай яна сама разумее, што ёй карысьней. А не зразумее, дык—ёй-жа гарэй...

---

На заканчэньне—яшчэ адна прапазыцыя аўтару. —Вы назвалі свой твор „І нас разбудзілі". — Не, гр. Пяткуне, гэта-ж ужо — ня нейкае „праціраньне вачоў спрасонку".— Гэта ўжо — першы пераможны крок народу, што прачхнуўся—на яве—на яго шляху барацьбіта, як — „П е р ш а я п е р а м о г а"...

Дык можа, так-бы й назваць Вашу „драму"...

P. S. Яшчэ адна зацемка. Побач з добрымі пачаткамі ёсьць у Вас і вялікая загана. Аднэй з найважнейшых рэчаў у прозе ёсьць х а р а с т в о с л о в а, о в ы. У Вас нямаш навет звычайнае чысьціні мовы, бо ў Вашым творы ё шмат польскіх і расейскіх словаў і формаў. Вось на гэтую чысьціню мовы і зьвярнеце вялікую ўвагу.

Да пабачаньня—у нашай чэрвіневай кніжцы, паважаны Грам. Аўтару. *М.*

---

# Як спаткалі „Родныя Гоні".

Нашае пачынаньне, а ў частцы—першая кніжка „Родных Гоняў" спатканы наагул вельмі зычліва — як з боку беларускага грамадзянства, так сама й польскага — у лепшых іх частках.

Беларуская газэта „Наша Праўда" ахвяравала нашаму часопісу вялікі крытычны фэльетон, у якім, схаваўшыся пад подпісам „Культурнік", „ведамы культурны дзеяч"(як сцьвяр-

джае Рэдакцыя) — з вялікай сымпатыяй разабраў увесь бяз вынятку зьмест кніжкі.

Крытык, а так сама й Рэдакцыя газэты, закінулі нам—як агульны закід—„апалітычнасьць“ нашага часопісу. Але-ж сам п. Культурнік у канцы зусім справядліва сказаў, што— „можа найбольш жыцьцяздольныя й трывалыя палітычныя факты ствараюцца якраз—непалітычнымі срэдзтвамі — бо — культурнай працай“... Гэтую яго трапна выражаную думку мы гатовы проста прызнаць — лёзунгам нашага журналу...

„Беларуская Крыніца“, відаць, яшчэ не пасьпела добра паглядзець на нашыя „Гоні“, зьмясьціўшы толькі — кароткую зацемку.

З польскай мясцовай прэсы адзначым вельмі прыхільнае прывітаньне з боку „Кур. Віл.“, які ў № 72 з 29 сакав. сёл., перадрукаваўшы нашыя рэдакцыйныя ўводзіны — аб заданьнях нашага часопісу, далей ад сябе піша: —

„Нумар першы багатым вельмі цікаўным літаратурным зьместам абяцае новае выдавецтва запраўды сур'ёзна. Месячнік гэтага роду ёсьць зьяваю вельмі пажаданай у беларускім жыцьці ў нас, дзе мамэнты палітычныя прадстаўляюць лішні й нездаровы пераpост над іншымі. Дзеля гэтага новаму часопісу складаем сэрдэчныя зычэньні плоднай і шырокай працы над шырэньнем духовай культуры сярод беларускага грамадзянства“.

Ня лаюць пакуль што нас і „оказы“ польскага ваяўніча зьвярынага нацыяналізму—мясцовыя й іншыя...

Маўчаць і нашыя беларуска-польскія ды польска-беларускія „мешанцы“ — арапы, мэтысы, крэолы ўсіх масьцяў і адценкаў—з „Беларускага Слова“ ды „Беларускага Дня“...— Як чутна, рэдакцыйныя групы гэтых выданьняў самі маніліся ці маняцца выдаваць так сама месячнікі. — Дык можа неяк нездаволены залішне пасьпешнымі радзінамі канкурэнта... Не хавае зусім свайго нездаваленьня — адна толькі „Сялянская Ніва“. Адна „Сялянская Ніва“, „дала“ нам, як кажуць, дыхту за ўсіх... Яе „рэцэнзар“ так „зьезьдзіў“ па нашых „Родных Гонях“, што—пасьля яго, выбачайце „крытычнага капыта“—не асталося на іх—ані краскі ані каліўца... Гэты водгук „сялянскай“ газэты гэтулькі характэрны для яе „абліччa“ і культурнай роўні часткі нашага грамадзянства, што лічым патрэбным спыніцца на ім крыху даўжэй. Робім гэта асабліва дзеля таго, што газэта ёсьць органам партыі „Сялянскага Саюзу“, павадыры якога протэндуюць на ролю політычных кіраўнікоў і культурных узгадавацеляў усяго беларускага сялянства...

Дык вось паслухайце, ак „крытыкуе“ нас „рэцэнзэнт“ гэтае газэты. —

„Каб ацаніць гэтую часопісь, пачынае ён, трэба разгледзіць, што і як у ёй зьмешчана“. Добра кажа. Можна

дадаць толькі, што трэба яшчэ, выбачайце, — і зразумець тое, што ў ёй напісана ды—сказаць бесстароньнюю праўду аб тым, што разгледзіў ды зразумеў.

Што-ж разгледзіў, што зразумеў і ацаніў „крытык" „Сялянскай Нівы" ў нашым часопісу? Падлічым — усьлед за ім самі—акуратна.

1. Ён разгледзіў, відаць, зразумеў ды акуратна падаў чытаром свае газэты —усе загалоўкі аддзелаў і артыкулаў часопісу;

2. Ён разгледзіў на ёй—„чырвоную вокладку";

3. Ён разгледзіў, што ў кніжцы — „матэр'ялу даволі шмат"...

4. Угледзіў навет, што — „для першага нумару (?) матэрыял ня зусім умела падабраны"...—Але—у чым гэтая „няўмеласьць" ды—чаму, напрыклад,—для другога нумару той самы матар'ял быў-бы добрым, аб гэтым мы ад крытыка не даведаліся...

5. Разгледзіў уважны й тонкі крытык і тое, што „ўсё гэта зьмешчана на 48 старонках друку (васьмёркі)"...

Усё гэта, сьцьвярджаем,—не схавалася ад зыркага ды сьветлага вока высака-адукаванага п. „Рэцэнзара"...

Цяпер пабачым, што-ж з усяго гэтага—„ацаніў" крытык „С. Н." Адкажам ізноў—матэматычна-точна

З 48 старонак часопісу сумленны крытык „ацаніў" толькі — рэдакцыйную адозву „Да Грамадзянства", якая займае ўсяго 1 старонку (на 1-ай і 2-ой стар.), і — літаральна—няпоўных 8 радкоў на 48-ой стар.—у ваддзеле „Культурныя Навіны"—у якіх паведамляецца аб... выхадзе новага часопісу „Беларускі Дзень". Усю гэтую „абвестку" і прыводзіць цалком,—акуратна й точна—сумленны аўтар... Толькі аб зьмесьце гэтай с о р а к - в о с ь м а й ч а с т к і ўсяго тэксту крытыкаванага новага беларускага часопісу даў сякое-такое паняцьце сваім чытаром рэцэнзэнт беларускай „сялянскай" газэты. Чаму ён так зрабіў: ці не здалеў сам сабе даць паняцьце аб тым, што там напісана, ці можа,—не хацеў, каб аб тым, што напісана ў кніжцы, даведаліся яго чытары, да гэтага мы даходзіць ня будзем... Падаем толькі да публічнага ведама—факты.

Але, можа, за тое крытык сказаў нешта цікаўнае й цэннае — аб тэй 1/48 частцы, аб якой ён здаў справаздачу чытаром?

Не, нажаль, і гэтага ня можна сказаць.

У 8-ёх радкох „абвесткі" на стар. 48 крытык востра „ацаніў" ды зганіў мову, назваўшы яе „да таго папсутаю"... А на падставе „папсутай мовы" гэтых 8-х радкоў ён „характарызуе" ужо ўсю беларускую мову часопісу—ува ўсіх яе артыкулах, расказах і вершах розных аўтараў — як „у найлепшым прыпадку брукавую, але ніколі не літэратур-

ную“... „Рэцэнзар“ не паказаў жаднага, на яго пагляд, напсаванага слова, але, відаць, абурыўся зьняважлівым „брукОвым“ тонам нашае зацемкі аб „Беларускім Дню“. Гэта нас ня дзівіць, прыймаючы пад увагу „дабрасуседзкія“ адносіны паміж выдаўцамі „Сялянскае Нівы“ і „Беларускім Днём“. Як-жа не бараніць тых, з кім разам „творыш“ незалежнасьць за шклянкаю віна?

У вартыкуле „Да Грамадзянства“ „крытык“ вылучна прычапіўся да стылю. Але ён сам гэты благі стыль стварыў, бо ў нас гутарка аб трох дарогах, а ён ходаецца проці трох заданьняў, у нас ёсьць „будзем старацца павялічаваць лічбу людзёў“..., а ён, прапусьціўшы слова „лічбу“, пытаецца „як можна павялічаваць людзёў?“ (Гэтую сваю абмылку на'т сама „С. Н“ ў дальшым № паправіла).

Ці меў права „крытык“ у канцы заявіць: „Дык вось, як выглядае гэты месячнік „літэратуры“,—калі ён паказаў сваім чытаром толькі адну сорак восьмую частку месячніка, дый то крыва й коса—аб гэтым хай судзе публіка.

Навакол гэтае, сказаць шчыра, — дурной і злоснай „рэцэнзыі“ завязалася цікаўная палеміка.

Прыхільнікі беларусоў — з маладых палякоў—вучоных Віленскага Унів. абурыліся на гэткае спатканьне новага беларускага часопісу з боку „Сялянскай Нівы“, і адзін з іх даў выраз гэтаму абурэньню ў газ. „Кур. Віл.“.

У варт. „Нясмачная крытыка“ п. В. сьцьвярджае, што „аўтар рэцэнзыі, замест таго, каб даць рэчовую крытыку ці ўказаць запраўдныя заганы новага выдавецтва, ужывае спосаб вельмі злосных і зусім неабаснаваных зацемкаў. Наколькі ведама гэты няпрыемны напад мае падкладку — у асабістай няпрыхільнасьці (анімозыях) да рэдакцыі „Родн. Гоняў“. Чаму гэта — орган п. Ярэміча ніколі ня ўмее падняцца вышэй асабістых парахункаў, ды пахваліць тое, што бязумоўна заслугуе на пахвалу“...

Ну, можа хто й дагадаецца, — чаму.

Але яшчэ цікаўней, што „Сялянская Ніва“ — у асобе свайго прысяжнага „крытыка“ пачулася „задзетай“ артыкулам „Кур. Віл.“ У № 34 той-жа „Рэцэнзар“ — піша: „Што лёгкая й бесстаронная(!)“ крытыка „Сял. Нівы“ не падабалася рэдакцыі „Родных Гоняў“ (скуль ён ведаў гэта тады?), дык у гэтым нічога ня можа быць дзіўнога, але вось ня толькі крыху, але нат вельмі шмат ёсьць дзіўным тое, што польская газэта, стаячая блізка да „пасьлямаёвага ўраду“, „Кур. Віл.“, узялася бараніць пакрыўджаныя „Родныя Гоні“. П. Рэцэнзар прапануе „Кур. Віл.“ — „прачытаць яшчэ раз уважна(!) рэцэнзыю“, якая „апіраецца толькі на запраўдных браках“ і „фактах“, узятых з „Родных Гоняў“, але ў якой — „аб асабістай няпрыхільнасьці няма ніякага ўспаміну“... Яшчэ-б чаго! — так-бы „крытык“ „Сялянск.

Нівы“ сам адкрыта й напісаў, што вось п. Ярэміч мае парахункі з рэдакцыяй „Родных Гоняў“ ці баіцца страціць мандат (а „будучы пасол“ Адам Більдзюкевіч баіцца не дастаць яго) ці што... Але „Сял. Ніву“ цікавіць, на жаль, ня тое, што ў яе такі благі, злосны, няпрыстойны й нясумленны рэцэнзэнт, якога за яго злоснасьць проці беларускай справы б'юць нават польскія прыяцелі беларусаў... Не! „Сял. Ніву“ цікавіць факт, чаму гэта — „польская газэта выказала нязвычайную апеку над беларускім месячнікам і хоча, каб беларускія газэты ня крыўдзілі гэтага месячніка“...

Запраўды, цяжка выясьніць неразумеючаму „рэцэнзару“, чаму гэта хтось навет з боку заступаецца за праўду, калі бача, як крыўдзіць яе нехта, д й яшчэ так, выбачайце, — злосна, як „рэцэнзар“ наняты ці пазычаны ad hoc у „дзядзькі“ суседа паслом Ярэмічам; такіх „крытыкаў“, кажа прыказка — навет у аўтары б'юць!... Але добра, што — хоць „цікавіцца“ — ёсьць надзея, што можа, з часам — зразумее!...

---

# Культурныя навіны.

— **Зборка сувыдаўцоў „Родных Гоняў“** была 19 красавіка. Прэзыдыум даў справаздачу за сакавік. У сакавіку было 15 чал. сувыдаўцоў, што далі разам трыста зал. Ад падпіскі і дэтальнай продажы Рэдакцыя дастала 179 зал. Прададзена Беларускай Кнігарні 200 экз. з спускам 45 проц. на 88 зал. Разам 567 зал.

Усяго выдатку 582 зал. Дык асталося з сакавіка 15 зал. доўгу.

— **У Чароднай (маёвай) кніжцы „Родных Гоняў“** будзе надрукавана шмат матар'ялу аб творстве М. Багдановіча (рэфэраты, вершы й інш.) з прычыны прыпадаючых на 25 мая 10-х угодкаў сьмерці Яго.

— **Беларуская мова ў Праваслаўнай Сэмінарыі ў Вільні.** Міністэрства Вераў і Асьветы прыслала Прав. Дух. Сэм. ў Вільні расклад лекцыяў к налецьцю (1927/28 школьн. году). Паводле гэтага раскладу беларуская мова будзе выкладацца 16 гадзінаў (ад 2—9 клясаў улучна па 2 гадзіне).

У 1923 г. беларуская мова мела 18 гадз., летась 17 гадз., сёлета чамусьці так сталася, што асталося ў ёй усяго 8 гадз. і на лета будзе 16 гадз.

Гэткую долю перажывае беларуская мова ў школе, дзе гатуюцца пастыры для беларускага народу і дзе яна павінна была-б быць моваю выкладоваю.

— **Курсы для вучыцялёў пачатковых школаў.** Польская ўлада пастанавіла адчыніць курсы для беларускіх вучыця-

лёў будучых пачаткавых школаў беларускіх. Відавочна каб паказаць, што адносіны Польшчы да Беларусаў астануцца дагэтуляшнія і што ўлада мае на ўвеце (на ўвазе) не асьвету, але полёнізацыйную політыку, курсы мелі быць у Кракаве. У вапошнім часе быццам улада хістаецца, ня ведаючы, ці дзяржацца ёй Кракава ці мо' згадзіцца на Вільню. Курсы маюць пачацца сёлета ў пачатку лета. Цікаўна яшчэ, хто будзе вучыць беларускую мову, на гэтых курсах, ці ўсё той-жа „прысяжны", выкладчык гэтае мовы, што меней умее яе за сваіх слухачоў? Апрача гэтага

для вучыцялёў польскіх школаў будуць летнія курсы беларускае мовы сёлета ў Нова-Сьвянцянах. Урадова кажацца, што заданьням гэтых курсаў будзе — прыгатаваць польскае вучыцельства Зах. Беларусі да выпаўненьня цыркуляру мін. Бартля аб пашане да роднай ня польскай культуры вучняў і насяленьня. Але ці-ж можна сумлявацца, што запраўднае заданьне ёсьць іншае, гэта, каб назначаць пасьлей польскіх вучыцялёў у беларускія школы і гэткім парадкам нават у беларускіх школах праводзіць полёнізацыю.

Калі так, дык гэткія курсы зусім лішнія, бо—каб зьдзекавацца над беларускай моваю і выклікаць ненавісьць да сябе і ўсяго, што польскае, вучыцельства гэтае даволі прыгатавана.

— **Вячэрнія курсы для выраслых.** Гэткія курсы адчыняе Галоўная Ўправа Т-ва Беларускае Школы ў Вільні. Праграма: беларуская мова, арытмэтыка, геаграфія, гісторыя, рысаваньне й інш.

Аб пачатку заняткаў на курсах будзе яшчэ абвешчана.

## З Радавае Беларусі.

— **Сьвяточны Сялянскі Унівэрсытэт.** У Радавай Беларусі ў Горы-Горках адчыняецца Сялянскі Унівэрсытэт, у катором будуць заняткі ў нядзелі.

— **Чарнасоценскае ўзгадаваньне.** Значне беларускіх студэнтаў у С.С.С.Р., як і даўней, вучыцца ў Ленінградзкім унівэрсытэце. Ад якогась часу асеў таксама ў Ленінградзе, як проф. унівэрсытэту, ведамы філёлёг акадэмік, але й ведамы рэакцыянэр і русыфікатар проф. Карскі. Карскі ўсё жыцьцё стараўся русыфікаваць Беларусаў і асабліва заеўся на беларускі рух у вапошнім часе, будучы справядліва скрытыкаваны ў Менску, як аўтар апошняе кнігі „Бѣлорусы" (аб новай літаратуры беларускай). Вось-жа частка ленінградзкіх студэнтаў беларускіх у большасьці сыноў б. ураднікаў і паноў—падпала пад уплыў Карскага і пад. да яго русыфікатараў. Гэтыя студэнты, зарганізаваныя ў „Полоцкім землячестве" нядаўна выдалі адозву проці ўвядзеньня беларускае мовы ў школы й урады Радавай Беларусі.

## Вечна жывыя нябошчыкі.

У вапошнія месяцы ўвесь цывілізаваны сьвет сьляткаваў урачыста памінальныя дні цэлага сьцягу сваіх найвялікшых „Дзядоў“, што так моцна валадаюць намі жывымі — тэй адзінай бяссупярэчнай уладай — духоўнага павадырства, духоўнага творства, валадаюць тым, што ўнесьлі вялізарныя вартасьці ў тую скарбніцу культуры, каторая дае — веду - праўду, праўду - справядлівасьць, уладу над сабой, магутнасьць над прыродай і радасьць жыцьця людзкасьці.

17 лютага скончылася 100 год, як памёр Гэнрых Пэсталоцці — закладчык падставаў новай пэдагогікі (навукі аб узгадаваньні дзяцей).

21 лютага — балей у філёзофічных цэнтрах вольнай думкі--сьвяткавалі 250-тыя ўгодкі сьмерці Боруха Сьпінозы, аднаго з закладчыкаў падставаў новай філёзофіі.

26 сакавіка нязьмерна шырэй — бо амаль ня ў кожным значным месьце урачыста абходзіў увесь сьвет 100-тыя ўгодкі сьмерці Людвіка Бэтховэна, — найвялікшага генія й тварца сучаснай музыкі.

31 сакавіка навуковыя цэнтры ўсяго сьвету пасьвяцілі ўрачыстыя абходы 200-тых угодкаў сьмерці Ісаака Ньютона, тварца матэматычных падставаў усяго сучаснага навуковага сьветапагляду і прыродаведы.

Трэба да гэтага ўсяго дадаць, што 21 красавіка прыпадаюць яшчэ 600-тыя ўгодкі тае разам фатальнай і сьветазарнай для яго часіны, калі італьянскі вучоны гуманісты Пэтрарка... абачыў харошую Ляўру, у каторай безнадзейна закахаўся, ды з тае часіны з вучонага профэсара пераварыўся — у запаленага каханьнем песьняра, — палажыўшы гэтым пачатак новай лірычнай поэзыі нашых часоў.

**Ад Рэд.** У наступной кніжцы „Р. Г.“ дамо шыршы агляд працы гэтых вялікіх „Дзядоў“ культуры.

---

## Кнігапіс.

**К. Вясёлы** (В. Аўдзей): Ня розумам сьцяміў, а сэрцам. П‘еса з вясковага жыцьця ў 4 актах пад рэд. І. Дварчаніна. Выдавец П. Мятла. Вільня. 1927. Старонак 48 у 16⁾ (малога фармату). Цана 50 грашоў.

П‘еса перадрукавана з ранейшага выданьня. І. Дварчанін, катораму належыцца „тэхнічнае вядзеньне друку кніжкі“ ў напісанай ім да яе прадмове, на жаль, забыўся ўспомнець, з якога выданьня зроблены перадрук. П‘еса вельмі годзіцца да гуляньня ахвотніцкімі тэатрамі.

**Maciej Buračok** (Prancіš Bahuševič): D u d k a B i e ł a r u s k a j a, vydańnie 6, pieradrukavanaje z 2 vyd. 1896 h. Вільня 1927. Стар. 48 у 8-о (кніжнага фармату). Цана 60 грашоў.

Зацемім, што калі прыняць пад увагу два выданьні кірыліцай, дык гэта будзе ня 6, а 8 выданьне „Дудкі Бел.“.

Як вельмі важная навіна, заслугуе адзначыць, што ў лацінскіх літарах, якімі надрукавана кніжка, нямецка-польскае падвойнае **w** заменена лацінскім **v**. Спадзяемся, што дальшыя выданьні лацініцай будуць толькі з **v** адзіночным. У правапісе ўсюды, гдзе перад **і** ёсьць й, гэтае **й** абазначана (siamji, pajić, jich, jinšy, jimia і г. п.).

**І. Дварчанін**: Х р э с т а м а т ы я Н о в а е Б е л а р у с к а е Л і т э р а т у р ы. Выпуск І. (Ядвігін Ш., К. Каганец, А. Паўловіч, Цётка). Выданьне Беларускага Выдавецкага Т-ва. Вільня. 1927. 82 стар. у 4-о (вялікі фармат). З патрэтамі аўтараў. Цана 1 зал. 50 гр.

Яшчэ сёл. ў красавіку выйдзе „выпуск“ II. (Янка Купала й Якуб Колас) і друкуецца выпуск III хрэстаматыі (А. Гарун, Зьм. Бядуля і іншыя).

Гэткім парадкам маем вельмі патрэбныя й дарагія кнігі, каторыя кожны Беларус павінен пастарацца мець. Тут каротка можна пазнаёміцца з цэлай новай беларускай літаратурай.

**Якуб Колас** (К. Міцкевіч): В ы б р а н ы я т в о р ы. Угодкавае выданьне „Беларускага Выдавецкага Т-ва“. Вільня. 1927. Стар. 78 у 4-о (вял. фарм.). Цана 2 зал. Кніга апраўленая ў цьвярдую вокладку з патрэтам аўтаравым.

Заслужонае для беларускае культуры „Беларускае Выдавецкае Т-ва“, як бачым не задзержуецца перад коштам і выдае такія дарагія харошыя кнігі, як гэтыя выбраныя творы К. Міцкевіча (Я. Коласа й Тараса Гушчы) так сказаць „чало“ ягоных твораў. Кніга гэтая сваім зьместам і вонкавым выглядам можа прыбраць кожную беларускую бібліотэку. Як на такое харошае выданьне, дык і цана 2 зал. не вялікая.

**П. С.**: Н і в а й К р а с к і. Вільня. 1927. Стар 104 у 8-о (кніжны фармат). Цана 1 зал. 20 гр.

Гэта цікаўны зборнік, ён складаецца з адзьдзелаў: І. Мы й нашая Бацькаўшчына (кароткі папулярны начырк аб паходжаньню Беларусаў ды гісторыі й географіі Беларусі), II. Чаго нам трэба? IIIа. Поэзыя, IIIв. Проза, IV. Аб гаспадарцы, V. Практычныя парады з гігіены.

**Янка Башкір**: Г у р т о к, камэдыя ў аднэй дзеі. Вільня. 1927. Стар. 32 у 16-о. Цана 40 грашоў. Камэдыйка напісана чыстай сакавітай моваю. Вельмі годзіцца на гуляньне, асабліва на вёсцы.

(Дальшы працяг агляду ў кніжцы 3-й).

# Разумовыя гульні.

## 1. Шарада (3 пункты).

Кожны род і племя славянскае расы,
Калі мелі звады ці якое ліха,
Як гісторык кажа, ў мінулыя часы
Склікалі заўсёды першае — другое.
А цяпер, як трэба склікаці нараду,
Першага — другога ніхто ня ззывае,
Бо ў яго карыснасьць, у ягону раду
Першага ды з трэцяй больш ніхто ня мае.
Першага — другога — гістарычны карты,
Як і Палачанаў прайшлі, праляцелі...
Другія і трэці — нічога ня варты,
Памагчы ня змогуць, вярнуць каб хацелі.
Так трэця — чацьверта спушчае вадзіцу,
Што на дах нальлецца з высокага неба;
Вада тая пройдзе праз зямлю ў крыніцу...
На дах не вернеш, хоць была-б патрэба.
Для гульні і сьпеваў хлапцы і дзяўчаты
Зьбіраліся разам даўнейшым звычаем:
Цэлая была там! а чым-жа багаты
Цяпер нашы вёскі? што мы там спаткаем?

## ЗЬМЕСТ.



Выдавец-Рэдактар: **Вера Дзегцяранка.**

Беларуская друк. ім. Фр. Скарыны. Вільня, Людвісарская 1.